18 студзеня 2019 | № 2 (613)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Кіроўца супраць прэзідэнта**

Стар. 8

**4 КУРАПАЦКУЮ ВАРТУ НЕЛЬГА ПЕРАМАГЧЫ**

Грамадская актывістка Ганна Шапуцька — адна з галоўных ініцыятараў і арганізатараў бягучай Варты абароны Курапатаў




**5 «ЗАСТАЛОСЯ ПАРУ МЕСЯЦАЎ, ХАЦЕЛАСЯ Б ПАГЛЯДЗЕЦЬ НА НЕБА, НА ЛЮДЗЕЙ...»**

Юрый спачатку дамагаўся групы па інваліднасці, цяпер вымушаны прадаваць машыну, каб набыць апарат штучнай вентыляцыі лёгкіх

**6–7 ТВАР У ТВАР З АМЕРЫКАЙ**

Візіт у Беларусь 15 студзеня 1994 года 42-га прэзідэнта ЗША Уільяма Джэферсана Клінтана быў адметнай падзеяй у найноўшай гісторыі Беларусі



**10–11 ХТО СТАЯЎ ЛЯ ВЫТОКАЎ БССР?**

Насуперак папулярнаму міфу, гэта быў не толькі бальшавіцкі праект




# Пакіньце адукацыю педагогам!

## Замест таго, каб даць настаўнікам свабоду дзеянняў, ім зноў загадваюць, што і як рабіць



Таццяна ШАПУЦЬКА

**Калі ў беларускіх чыноўнікаў няма добрых навінаў, яны пачынаюць нешта ахайваць — вельмі просты спосаб паказаць, што ты ўсё трымаеш пад кантролем, і наогул, як табе цяжка працаваць з падначаленымі — лайдакамі ды абібокамі.**

Гэтымі днямі шчаслівы квіток быць публічна раскрытыкаванай выпаў нашай шматпакутнай, рэфармаванай-нерэфармаванай сістэме адукацыі. Аляксандр Лукашэнка абурыўся школьнымі праграмамі — маўляў, занадта складаныя, раней мы такое вывучалі ўжо ва ўніверсітэтах. Запатрабаваў прывесці праграмы ў «нармальны выгляд», і нават прыгразіў міністру адукацыі адстаўкай.

Нешта ў гэтым ёсць — на дрэнна складзеныя праграмы скардзяцца і педагогі, і самі навучэнцы. Аднак наракаюць не на складанасць прадметаў, а на тое, што ў праграмах шмат неактуальнага ды залішняга, мала тэмаў, якія раскрываюцца глыбока ды цікава.

Усе папярэднія спробы «ўрэзаць» праграмы прыводзілі да таго, што той жа аб'ём інфармацыі спрабавалі ўпіхнуць у меншую колькасць гадзін — адпаведна, усё бягом і па вярхах. І добра, калі таленавітыя настаўнікі змогуць раскрыць тэму і ў такіх умовах, а калі каму з педагогам не вельмі пашчасціла...

Дый наогул, мала якія навучальныя праграмы пісаліся на беларускай глебе, большасць цяперашніх праграм — гэта перапрацаваныя савецкія ці скапіраваныя расійскія аналагі. А як жа ўласныя напрацоўкі? Толькі не кажыце, што ў краіне, дзе яшчэ 450 гадоў таму быў заснаваны Полацкі езуіцкі калегіюм, адсутнічае ўласны адукацыйны падмурак.

Займальна і тое, як Аляксандр Лукашэнка ўспрымае рэчаіснасць: «Няўжо жыццё так паскорылася?» Уявіце сабе, паскорылася! Яшчэ трыццаць гадоў таму мабільны тэлефон у Беларусі мог існаваць толькі як прылада з навуковай фантастыкі, а сёння любы трохгадовы малец можа спампаваць гульню на бацькоўскі планшэт.

Мажліва, сучасныя тэмпы жыцця некаторым людзям цяжка асэнсаваць (асабліва калі яны, паводле іх уласнага прызнання, да камп'ютара нават не падыходзяць), але чаго тады лезці ў адукацыю? Жыццё паскорылася — і нам трэба паскарацца, інакш рызыкуем застацца сярод апошніх. Лепш за ўсё гэта разумеюць самі навучэнцы — колькасць цэнтраў нефармальнай адукацыі ўвесь час расце. І гэта не толькі моўныя курсы ды IT, гэта і заняткі па архітэктуры, па мастацтве, па дакладных навуках ды іншае. Бацькі спрабуюць за ўласныя грошы даць дзецям тыя веды, якіх яны недабралі ў школе. Ці, прынамсі, зацікавіць дзяцей, даць ім магчымасць зірнуць на свет шырэй, чым тое выкладаецца на звычайна нелюбімых шкалярамі ўроках біялогіі, хіміі, фізікі.



Фота www.gettyimages.com

**Яшчэ 30 гадоў таму мабільны тэлефон уяўляўся як прылада з навуковай фантастыкі, а сёння трохгадовы малец можа спампаваць гульню на планшэт**

Тым, у каго няма дзяцей-школьнікаў, часам цяжка ўявіць, наколькі састарэлі некаторыя праграмы. Днямі журналістка Ірына Чарняўка выклала ў сеціва тэксты са зборніка дыктовак, які сказалі набыць у школе яе пляменніку. Дыктоўкі ўсе як на падбор! Напрыклад, урывак з дыктоўкі 2 класа: «Усёй сям'ёй мы працуем у калгасе. Для нашай сям'і калгаснікі пабудавалі новы дом». Цікава, ці шмат хто з сучасных другакласнікаў наогул ведае, што такое калгас?

Асобная праблема — аўтары праграм. З аднаго боку, многія з іх ужо ў паважаным узросце і не могуць развітацца з савецкім мінулым ды пісаць актуальныя рэчы. З іншага — маладыя аўтары таксама не заўжды маюць дастатковую кваліфікацыю (узгадаем ганебна нізкія прахадныя балы ў педуніверсітэты), дый самі выгадаваліся на няякасных праграмах і плагіяце.

Патрэбныя адкрытыя конкурсы, каб пазмагацца за права ўдзельнічаць у напісанні праграм маглі ўсе жадаючыя, каб праявіць свой талент мог любы педагог. Мажліва, калі сярод аўтараў праграмы будуць зацікаўленыя практыкуючыя настаўнікі, якія штодня працуюць са школьнікамі і бачаць зваротную рэакцыю, а не толькі тэарэтыкі ды тыя, хто патрапіў на «цёпленькае месца» выпадкова, праграмы і прыйдуць у «нармальны выгляд».

У любым выпадку, вырашаць праблемы адукацыі павінны дасведчаныя людзі, спецыялісты ў гэтай галіне, а не чыноўнікі. Патрэбная грандыёзная праца педагагічнай супольнасці, якой дзяржава будзе дапамагаць, а не замінаць, баламуцячы ваду то пераносам навучальнага часу, то ліквідацыяй гімназічных класаў, то яшчэ чым. Але гэта адбудзецца толькі, калі чыноўнікі рэальна захочуць альбо пад ціскам грамадскасці будуць вымушаныя заняцца сістэмай адукацыі.

Калі ж асноўная мэта — паказаць выбарцам, што ўсё пад кантролем, тады дастаткова і проста памахаць пальчыкам міністру Карпенку.

# Чаму хворых на рэўматоідны артрыт лечаць побач з хворымі на пнеўманію?

Марыя ВЕРАС

**У Слуцку пачасціліся выпадкі, калі хворыя, нягледзячы на абвастрэнне рэўматоіднага артрыту, адмаўляюцца ад шпіталізацыі. Яны баяцца падчапіць бранхіт альбо пнеўманію ў пульманалагічным аддзяленні, дзе павінны праходзіць лячэнне.**

Складваецца парадаксальная сітуацыя: рэўматоідны артрыт лечыцца імунадэпрэсантамі, якія аслабляюць імунную сістэму, а на стацыянарнае лячэнне такіх хворых кладуць побач з пацыентамі з захворваннямі лёгкіх і бронхаў.

Рэўматоідны артрыт страшны тым, што прычыны яго ўзнікнення да гэтага часу не вядомыя, а вылечыць яго практычна немагчыма. Без правільнага лячэння хворы хутка становіцца інвалідам з абмежаванай здольнасцю да перасоўвання.

Імунная сістэма захварэўшага чалавека раптоўна пачынае ўспрымаць свае клеткі, органы і тканіны як чужыя. Замест таго, каб ваяваць з бактэрыямі і вірусамі, імунітэт пачынае знішчаць суставы, хрыбетнік, унутраныя органы. Чалавек не можа ўстаць з ложка, апрануцца...

Самая вялікая праблема ў жыцці чалавека, які пакутуе на РА, — знайсці добрага лекара. Чым далей ад сталіцы жыве чалавек, тым цяжэй яму змагацца з гэтым страшным захворваннем. А каб пачаць змагацца, патрэбна своечасова паставіць правільны дыягназ. На базе раённых паліклінік зрабіць гэта практычна немагчыма.

— Я цягам 8 месяцаў хадзіла па кабінетах слуцкай паліклінікі, — гаворыць случчанка Зінаіда Цімошак. — Дактары рознага профілю аглядалі мяне, знаходзілі хваробы па сваім профілі і прызначалі лячэнне. Неўрапатолаг знайшоў «сіндром Мортана», траўматолаг — плоскаступнёвасць, тэрапеўт — артроз, псіханеўролаг — неўроз і гэтак далей. Ляжала ў бальніцах, калолі ўколы. А хвароба прагрэсавала. І толькі пасля платнага аналізу ў дыягнастычнай лабараторыі «Сінлаб» я была накіравана ў рэўматалагічнае аддзяленне Мінскай абласной клінічнай бальніцы, дзе ўжо і паставілі канчатковы дыягназ, на некаторы час затармазілі захворванне і прызначылі базісны прэпарат «метатрэксат».

Аднак патрапіць на комплекснае лячэнне да прафесіянальных дактароў-рэўматалогаў у абласную бальніцу з кожным годам становіцца ўсё цяжэй.

Па-першае, запісвацца на кансультацыю трэба за некалькі месяцаў наперад. Па-другое, у бальніцы ўжо некалькі гадоў вядзецца капітальны рамонт, і рэўматалагічнае аддзяленне страціла сваё памяшканне. Прытулак для аддзялення быў знойдзены ў пульманалагічным аддзяленні, што вельмі не падабаецца ні самім дактарам, ні хворым людзям.

— Хворыя на рэўматоідны артрыт прымаюць імунадэпрэсанты, і вельмі лёгка падхопліваюць розныя інфекцыйныя захворванні, — працягвае Цімошак. — У пульманалагічнае аддзяленне абласной бальніцы трапляюць людзі з захворваннямі бронхаў і лёгкіх, якія не паддаліся лячэнню на рэгіянальным узроўні. Уявіце сабе псіхалагічны стан пацыента, якому доктар гаворыць: «Я вас магу пакласці ў аддзяленне, але вы можаце захварэць на пнеўманію». Такое ж становішча і ў Слуцкай раённай бальніцы. Ложкі для рэўмахворых таксама месцяцца ў пульманалагічным аддзяленні. Даводзіцца займацца самалячэннем у хатніх умовах, пакутаваць ад болю і марыць аб эўтаназіі.

Каб змяніць сітуацыю, якая склалася з рамонтам рэўматалагічнага аддзялення ў Мінскай абласной бальніцы і дзіўным улучэннем у пульманалогіі, Зінаіда Цімошак у канцы лістапада звярнулася ў Міністэрства аховы здароўя. У пачатку студзеня атрымала пазітыўны адказ з упраўлення па ахове здароўя Мінскага аблвыканкама. У ім гаворыцца, што «ў цяперашні час рэўматалагічнае аддзяленне размешчана на тэрыторыі ўжо адрамантаванага аддзялення алергалогіі», а таксама даецца абяцанне павялічыць ложкавы фонд пасля заканчэння рамонту.

Дарэчы, ва ўсім свеце і ў нашай краіне ад гэтай хваробы існуюць біялагічныя лекі, што ў хуткія тэрміны паляпшаюць становішча людзей, якія не паддаюцца лячэнню хімічнымі базіснымі прэпаратамі і гармонамі. Толькі простаму беларусу яны не па кішэні, бо курс лячэння толькі на адзін год каштуе каля 15 тысяч еўра. У многіх развітых еўрапейскіх краінах існуюць адмысловыя праграмы для лячэння такіх хворых, якім не дапамагаюць хімічныя імунадэпрэсанты.

Застаецца толькі чакаць, калі наша краіна ўрэшце разбагацее і зверне ўвагу на гэтую хваробу, альбо рэфармуе ўсю сферу аховы здароўя.

Пасля атрымання адказу з Мінскага аблвыканкаму Зінаіда Цімошак спадзяецца вырашыць пытанне з лячэннем хворых на рэўматоідны артрыт таксама і ў Слуцкай бальніцы.

# Праваабаронцы патрабуюць прыцягнуць да крымінальнай адказнасці міністра

**Праваабарончы цэнтр «Вясна» і юрыст Валянцін Стэфановіч накіравалі заявы ў Генеральную пракуратуру і Следчы камітэт з тым, каб гэтыя дзяржорганы правялі праверку па факце дыскрымінацыйных выказванняў міністра ўнутраных спраў Ігара Шуневіча па тэлебачанні.**

Гаворка ідзе пра інтэрв'ю міністра, у якім ён выказаўся адносна грамадзянаў Рэспублікі Беларусь, што належаць да супольнасці ЛГБТК+, назваўшы іх «дзіравымі».

Праваабаронцы ў сваю чаргу адзначаюць, што ў беларускім грамадстве і так дастаткова высокі ўзровень гамафобіі, што часам прыводзіць нават да здзяйснення злачынстваў супраць жыцця і здароўя грамадзянаў па матывах нянавісці менавіта па прыкмеце іх сексуальнай арыентацыі. Замест таго, каб супрацьстаяць такім негатыўным праявам, міністр Шуневіч дазваляе сабе ўжываць жарганізмы, характэрныя для носьбітаў крымінальнай субкультуры альбо носьбітаў неанацысціх поглядаў.

«Лічу, што дадзеныя выказванні носяць крайне абразлівы характар, прапагандуюць у беларускім грамадстве нянавісць і дыскрымінацыю ў дачыненні да грамадзянаў краіны па прыкмеце іх сексуальнай арыентацыі, спрыяюць іх далейшай стыгматызацыі», — адзначае Валянцін Стэфановіч у заяве да старшыні Следчага камітэта.

Ён падкрэслівае, што такія выказванні, апроч іншага, сведчаць пра нізкую прававую культуру і неразуменне прынцыпаў дзейнасці органаў МУС, нормаў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і міжнародных нормаў у галіне правоў чалавека, ратыфікаваных краінай.

Так, згодна з артыкулам 22 Канстытуцыі, усе грамадзяне роўныя перад законам і маюць права без усялякай дыскрымінацыі на роўную абарону правоў і законных інтарэсаў. А артыкул 6 Закона «Аб органах унутраных спраў» замацоўвае, што гэтыя органы абараняюць жыццё, здароўе, гонар і годнасць, правы, свабоды і законныя інтарэсы грамадзянаў ад злачынных і іншых супрацьпраўных пасягальніцтваў, незалежна ад іх грамадзянства, сацыяльнага, маёмаснага і іншага становішча, расавай і нацыянальнай прыналежнасці, пола, узросту, адукацыі і мовы, стаўлення да рэлігіі, палітычных і іншых перакананняў, а таксама іншых абставінаў.

«Між тым, выказванні І. Шуневіча, які з'яўляецца службовай асобай, уяўляюць сабой нішто іншае, як падбухторванне да дыскрымінацыі, варажнечы да грамадзянаў краіны па дыскрымінацыйнай прыкмеце — сексуальнай арыентацыі, фармуюць непрыязь, пачуццё агіды, нянавісці і варожасці да прадстаўнікоў дадзенай групы.

Такім чынам, лічу, што ў дзеяннях міністра ўнутраных спраў можа ўтрымлівацца склад злачынства па арт. 130 КК Рэспублікі Беларусь (распальванне расавай, нацыянальнай, рэлігійнай ці іншай сацыяльнай варажнечы ці розні)», — піша Валянцін Стэфановіч і, у адпаведнасці з артыкулам 174 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса, просіць СК правесці праверку ўказаных у заяве фактаў і па яе выніках прыцягнуць Ігара Шуневіча да крымінальнай адказнасці.

Па гэтых жа абставінах праваабаронцы просяць правесці і пракурорскую праверку, даць ім належную прававую ацэнку.

Больш за тое, праваабаронцы праінфармавалі незалежнага эксперта Савета па правах чалавека ААН па абароне ад гвалту і дыскрымінацыі па прыкметах сексуальнай арыентацыі і гендарнай ідэнтычнасці Віктара Мадрыгаль-Барлоса па факце публічных выказванняў міністра ўнутраных спраў і прасілі яго, скарыстаўшыся інструментамі мандата, звярнуць увагу ўрада Рэспублікі Беларусь на недапушчальнасць такога кшталту заяваў службовых асобаў дзяржавы і неабходнасць няўхільнага прытрымлівання сваіх міжнародных абавязацельстваў у галіне абароны і заахвочвання правоў чалавека.

**Паводле spring96.org**

# «Разумны сэнс у сістэме адукацыі прысутнічаў да сярэдзіны 2000-х»

Таццяна ГУСЕВА

**Заснавальнік рэпетытарскага цэнтру «100 балаў» Яўген Лівянт пракаментаваў жорсткія заявы кіраўніка дзяржавы на адрас міністра адукацыі Ігара Карпенкі.**

«У нас часам ужо ў восьмым-дзявятым класе вывучаюць тое, што мы раней вывучалі ў ВНУ. Няўжо так жыццё паскорылася? Няўжо ўсіх іх матэматыкамі рыхтуем? Таму трэба вельмі сур'ёзна заняцца адукацыяй. Калі міністр гэтага не зразумеў, значыць, ён не міністр», — папярэдзіў Лукашэнка.

Магчыма, гэтая заява — сігнал пра тое, што крэсла пад міністрам адукацыі задрыжэла?

«Калі шчыра, мне гэта абыякава, — выказаўся ў каментары «Салідарнасці» Яўген Лівянт. — Я не магу ўспомніць ні аднаго міністра адукацыі, які зрабіў бы нешта карыснае».

На думку эксперта, разумны сэнс у сістэме адукацыі прысутнічаў да сярэдзіны 2000-х, калі ў школах былі профільныя і ліцэйскія класы, а таксама класы з паглыбленым вывучэннем прадметаў.

«Рэформа 2007–2008 гадоў знішчыла гэтую разнастайнасць», — лічыць рэпетытар.

Яўген Лівянт хоча бачыць міністрам адукацыі прадстаўніка IT-індустрыі, буйнога менеджара Парку высокіх тэхналогій: «Тады можна было б на нешта спадзявацца. Прынамсі, яны ведаюць, што такое прычынна-выніковыя сувязі і логіка. Разумеюць, што перад тым, як нешта запусціць, трэба тэставаць. Калі мы плануем стаць IT-краінай, у гэтым быў бы сэнс».

Ці сапраўды цяпер у школе вучні вывучаюць тое, што іх бацькі раней вывучалі ў ВНУ?

«Змест праграм па матэматыцы і фізіцы стаў значна бяднейшым, чым у 2000-я, 1990-я і ў 1980-я, — распавядае Яўген Лівянт. — Напрыклад, вытворныя праходзяць у школе, але на ЦТ іх няма. Інтэгралы не праходзяць у школе, вектараў няма ні ў школьнай праграме, ні на ЦТ.

Гэта супярэчыць таму, пра што сказаў кіраўнік дзяржавы. Але не ўсё так проста. Школьная праграма — гэта не толькі веды, але яшчэ і ўменні і навыкі. Адбыўся фантастычны рост складанасці задач і разнастайнасці тыпаў задач, якія павінен умець вырашаць школьнік. Гэта лёгка праверыць, параўнаўшы савецкія і сучасныя падручнікі.

Я скончыў школу ў 1983 годзе. Пры паступленні на фізфак БДУ ў мяне былі высокія балы. Я не падазраваў пра існаванне задач па матэматыцы і фізіцы, якія рашаюць мае вучні сёння. У СССР было 5–6 ВНУ, дзе для паступлення трэба было рашаць задачы на такім узроўні.

Мае аднакурснікі працуюць прафесарамі фізікі ў амерыканскіх і еўрапейскіх ВНУ. Іх ведаў было дастаткова, каб дасягнуць высокіх вяршынь у навуцы».

Рэпетытар адзначае, што павялічыўся аб'ём праграм па хіміі, біялогіі, геаграфіі, гісторыі, рускай і беларускай мовах і літаратуры.

«Такі аб'ём — гэта прафанацыя, — лічыць Яўген Лівянт. — Адкрываеце падручнік па гісторыі і чытаеце пра князя або караля. Там пералічваюцца ўсе яго жонкі, браты-сёстры, дзеці братоў-сясцёр... Добра, што палюбоўнікаў з палюбоўніцамі няма. У падручніку мноства датаў — важныя і другасныя. Як растлумачыць вучню, што важна? Дзікі перабор абсалютна па ўсіх прадметах».

**Паводле gazetaby.com**

**Пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Альтэрнатыўная матэматыка

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Нягледзячы на тое, што 2018-ы сышоў, беларусы дасюль падводзяць яго вынікі. І не дзіўна, бо статыстыка за мінулы год будзе паступаць яшчэ да сакавіка 2019-га.**




www.discovered.com.ua

Журналісты баранавіцкай «Intex-press» параўналі касавыя чэкі на прадукты за студзень 2018-га і студзень 2019 года. У выніку высветлілася, што больш за ўсё ў 2018 годзе выраслі цэны на мяса і вырабы з яго. Да прыкладу, тушкі баранавіцкіх бройлераў, якія ў студзені 2018 года можна было набыць па 3,29 рубля за кіло, у студзені 2019-га каштуюць ужо на рубель даражэй, а гэта плюс 30% да цаны за год. Каўбасы таксама падаражэлі: да прыкладу, сыравэнджаная каўбаса з той жа курыцы за год вырасла ў кошце амаль на 25%.

Істотна выраслі цэны і на малочныя вырабы. Адчувальна падаражэла смятана. Калі ў студзені мінулага года маленькі слоік 15-працэнтнай смятаны можна было набыць за 76 капеек, то цяпер ён каштуе не менш за рубель. Малако падаражэла прыкладна на 18%, тварог у сырэднім — на 15%, ёгурт — на 13%.

Хлебабулачныя вырабы ў цэлым падаражэлі прыкладна на 10%. А вось выпечка здзівіла. Кошт булак вырас амаль на 17%. Прычым, напрыклад, булачка з жытняй мукі вагой усяго 30 грамаў вырасла ў кошце за год на 30%.

Аднак засталіся тавары, якія не падаражэлі. Зялёныя аліўкі як каштавалі ў студзені мінулага года 1,79 рубля за бляшанку, так і прадаюцца па той жа цане. Што вельмі дзіўна, бо аліўкі, у адрозненне ад малака і мяса, — гэта імпарт. Па ідэі, ён і павінен быў даражэць у першую чаргу.

Падаецца, гэта выдатнае сведчанне поспехаў беларускай сельскай гаспадаркі і «эканамічнай мадэлі». Калі ўсё беларускае даражэе, а імпартнае — не (нават з улікам інфляцыі!), дык міжволі ўзнікае пытанне: якая «эканамічная мадэль» лепшая? І ці не варта нам узяць на ўзбраенне нейкую іншую эканамічную мадэль?

У цэлым жа, адзначае «Intex-press», калі скласці ў кошык самыя неабходныя прадукты, то за год кошык падаражэў амаль на 20%. «Невядома, якімі будуць лічбы афіцыйнай статыстыкі, але персанальная інфляцыя відавочна апынулася вышэй за тыя 5,5%, якія запланаваў Нацбанк на 2018 год», — падсумоўвае выданне.

Прычым такую выснову зрабіў не толькі «Intex-press». Паводле дадзеных праекта «Кошт урада», курыца ў Беларусі падаражэла на 19,6%, свініна — на 15,8%, рыба — на 10,6%, бульба — на 17,5%. Усе гэтыя лічбы ўзятыя за лістапад 2018 года, у той час як афіцыйная інфляцыя ў тым месяцы склала 5,2%.

Такім чынам, можна зрабіць выснову: нешта не тое з «афіцыйнай інфляцыяй». Канешне, курс долара трымаецца, заробкі не растуць, але рост цэнаў — інфляцыйны паказчык, — якраз не падпарадкоўваецца ўраду.

Наконт заробкаў. Паводле дадзеных афіцыйнага агенцтва БелТА, за лістапад мінулага года каля 70% беларусаў зараблялі менш за тысячу рублёў. Да 300 рублёў атрымлівалі 3% работнікаў, ад 300,1 да 1000 рублёў — 67,5% (разам — 70,5%). У 19,3% заробак складаў ад 1000,1 да 1500 рублёў. Вышэй, але ў межах 2000 рублёў, атрымлівалі 5,8% работнікаў.

Калі займацца варажбой, то можна ўявіць, што 5,8% тых, чый заробак перасягнуў 2000 рублёў, — гэта айцішнікі, топ-менеджары, дырэктары і буйныя бізнесоўцы. 19,3% з заробкам ад 1000 да 1500 — чыноўнікі. Астатнія так і не дасягнулі абяцаных «па пяцьсот».

Тое, наколькі збяднелі за апошнія часы беларусы, дэманструе і айчынны аўтарынак. Беларуская аўтамабільная асацыяцыя назвала самыя прадаваныя маркі аўтамабіляў у 2018 годзе. На першае месца нечакана выйшаў расійскі аўтапрам — «Lada Vesta» (5269 прададзеных аўто ў 2018 годзе). На другім месцы знаходзіцца «Volkswagen-Polo» — 4908 машын, на трэцім — «Renault Logan» з 3250 машынамі.

Кошт «Lada Vesta» зараз — 20 тысяч рублёў, то бок 10 тысяч доляраў. «Volkswagen-Polo» каштуе от ад 24 400 рублёў — самая танная мадэль на нашым рынку. «Renault Logan» — ад 17 400 рублёў. Далей ідзе «Renault Sandero Stepway» — ад 22 400 рублёў, і машыны, кошт якіх перавышае 24 тысячы рублёў.

То бок, у адрозненне ад мінулых часоў, беларусы пачалі абіраць машыны не па якасці, а па кошце. Інакш ніякім чынам не патлумачыць лідарства расійскага аўтапраму ў спісе БАА.

Усё гэта ў перспектыве абяцае нам сумныя часы — калі не зменіцца сітуацыя ў эканоміцы.

Дарэчы, такія дзівосы з лічбамі тычацца не толькі цэнаў і заробкаў. Прадпрымальнік і грамадскі актывіст Віктар Гарбачоў уважліва пагледзеў рэпартажы пра сустрэчу Аляксандра Лукашэнкі з «вялікім украінскім палітыкам» Віктарам Медведчуком, які прадстаўляе Кіеў у мінскіх перамовах, гуманітарнай падгрупе па Данбасе. Падчас размовы Лукашэнка сказаў пра 150 тысяч украінцаў, якія, па яго словах, з пачаткам там ваеннага канфлікту прыехалі жыць у нашу краіну. Пры гэтым, як сказаў Лукашэнка, ім былі дадзены роўныя правы з жыхарамі Беларусі.

Гарбачоў праверыў статыстыку жыхароў Беларусі за апошнія пяць гадоў. «Ні ў адным годзе не было павелічэння колькасці жыхароў Беларусі на гэтыя 150 тысяч. Не было ўсплёску росту насельніцтва ні ў адным годзе. 2014 год — насельніцтва Беларусі 9 мільёнаў 470 тысяч і 2019 год — 9 мільёнаў 490 тысяч», — піша Гарбачоў.

У сувязі з гэтым у яго і ўзнік шэраг пытанняў. «Дзе 150 тысяч? Ці яны тут жывуць без рэгістрацыі і падпольна? Можа, яны прыехалі, крыху пажылі ў краіне для жыцця — і хутка з'ехалі? Не ведаю куды, але з'ехалі?» — пытаецца Гарбачоў.

Сапраўды, куды зніклі гэтыя людзі і чаму такая колькасць народу не ўлічаная афіцыйнай статыстыкай?

Насамрэч, гэтае пытанне значна больш сур'ёзнае, чым кпіны са словаў кіраўніка дзяржавы. Днямі выйшаў агляд Global Economy Watch. Яго аўтары паставілі Беларусь на 10-е месца ў спісе краін з самай хуткай стратай працаздольнага насельніцтва. Паводле агляду, з-за старэння насельніцтва і эміграцыі за апошнія 10 гадоў працаздольнага насельніцтва ў краіне стала на 8% менш.

У 2020 годзе нас чакае сур'ёзнае падзенне ва ўзроставай катэгорыі 20–24 года, і толькі да 2035 года людзей у ёй стане столькі ж, колькі было ў 2016 годзе.

Больш пенсіянераў — менш працоўных. Калі ў нас «знікае» 150 тысяч працаздольных мігрантаў — гэта таксама трывожны званочак для краіны. Але больш трывожны званочак — нашая моладзь не хоча жыць у «краіне для жыцця».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Марына Золатава

**Крымінальную справу ў дачыненні да галоўнай рэдактаркі партала TUT.BY перадалі ў суд Заводскага раёна Мінска.**

Марына Золатава застаецца апошняй абвінавачанай па «справе БелТА». Яе вінаваціць у бяздзейнасці службовай асобы. Санкцыі артыкула: штраф, пазбаўленне права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю, пазбаўленне волі на тэрмін да пяці гадоў.

Золатава двойчы звярталася ў Следчы камітэт з хадайніцтвам аб спыненні крымінальнага пераследу, але абодва разы атрымала адмову. У Генпракуратуры прыйшлі да высновы, што абвінавачанне выстаўлена абгрунтавана.

Нагодай для ўзбуджэння крымінальнай справы стаў зварот гендырэктара дзяржаўнага інфармагенцтва БелТА Ірыны Акуловіч у праваахоўныя органы з-за збояў пры ажыццяўленні доступаў да платнай падпіскі паслуг, якія падаваліся названым прадпрыемствам аднаму з яго заказчыкаў.



## Леанід Кулакоў

**У судзе Першамайскага раёна Мінска пачаўся разгляд справы па іску Леаніда Кулакова да Златы Савоставай.**

Нагадаем, 27 чэрвеня 2018 года Злата Савостава за стырном аўто «Таёта» наўмысна наехала на ўдзельніка Курапацкай варты Леаніда Кулакова. Прысутныя адзначалі, што дзяўчына ў аўто рэагавала на сітуацыю са смехам, а калі ўбачыла, што наехала на людзей, адразу развярнулася і з'ехала з месца ДТЗ. Кулакова забралі ў шпіталь на «хуткай». У яго быў дыягнаставаны пералом левай рукі. Актывісту наклалі гіпс, з якім ён прахадзіў два месяцы.

Падаецца, сітуацыя відавочная: кіроўца збіў чалавека і ўцёк з месца ДТЗ. Аднак усё не так проста. Кулакоў патрабаваў прыцягнуць 29-гадовую Злату Савоставу да крымінальнай адказнасці за наезд на пешаходаў, аднак УУС Мінаблвыканкама не ўгледзела прыкмет злачынства ў дзеяннях кіроўцы, якая з'ехала з месца ДТЗ! А судмедэксперты, якім ДАІ накіравала паперы Кулакова, далі заключэнне, што пералому ў Кулакова… няма!

Зараз усе гэтыя акалічнасці будуць высвятляцца ў судовым разбіральніцтве.

## Ганна Красуліна

**Міліцыя не абскардзіла рашэнне суда пра адмену пастановы аб высылцы прэс-сакратаркі Аб'яднанай грамадзянскай партыі з Беларусі. Красуліна застаецца ў Беларусі.**



Нагадаем, 13 лістапада Красуліну выклікалі ў УУС Маскоўскага раёна Мінска, дзе ўручылі апавяшчэнне аб высылцы з Беларусі тэрмінам на адзін год. Пакінуць краіну яна павінна была да 30 лістапада 2018 года. Прычына высылкі ў тым, што Красуліна тройчы прыцягвалася да адміністрацыйнай адказнасці, з іх двойчы — за ўдзел у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах, адзін раз — за неаплачаны ў аўтобусе праезд. Усе штрафы актывістка пагасіла, але ў паведамленні было сказана: «Выслаць у інтарэсах грамадскай бяспекі».

Красуліна падала ў суд скаргу на рашэнне УУС Маскоўскага раёна аб высылцы. 19 снежня суд Маскоўскага раёна задаволіў скаргу прэс-сакратаркі АГП. Суд таксама пастанавіў адмяніць пастанову УУС аб высылцы.

«Я атрымала інфармацыю з суда Маскоўскага раёна, што скарга на рашэнне суда ад УУС не паступіла. Тэрмін, які адводзіцца на абскарджанне і апратэставанне рашэння суда, — 15 дзён, — прайшоў. Гэта азначае, што УУС не мае намеру абскарджваць рашэнне», — распавяла Красуліна.

Акрамя таго, у аддзеле па грамадзянстве і міграцыі Маскоўскага раёна ў яе прынялі дакументы на падаўжэнне віду на жыхарства, а штамп аб высылцы ў пашпарце анулявалі.

«Я задаволеная, што такія рашэнні ўсё ж прымаюцца ў нашай краіне, дзе ўжо практычна няма надзеі на справядлівае правасуддзе. Такія рашэнні ўражваюць замежных назіральнікаў і міжнародныя структуры. І выклікала б расчараванне, калі сітуацыя якім-небудзь адвольным чынам была б адкручаная назад», — лічыць прэс-сакратарка АГП.

# Ганна Шапуцька: Курапацкую варту нельга перамагчы

Дзяніс ІВАШЫН

**Працягваем цыкл інтэрв'ю з актывістамі Варты абароны Курапатаў. Гэтым разам мы гаворым з грамадскай актывісткай Ганнай Шапуцька, якая ёсць адным з галоўных ініцыятараў і арганізатараў бягучай Варты абароны Курапатаў.**



Фота Дзіяны Серадзюк

***— Спадарыня Ганна, вы ўжо больш за дзесяць гадоў здзяйсняеце абарону Курапатаў. З'яўляецеся каардынатарам ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу Курапаты», стала ўдзельнічаеце ў талаках на месцы масавых сталінскіх расстрэлаў. Таксама я ведаю, што вашым сваяком з'яўляецца расстраляны «тройкай» НКУС пісьменнік Максім Гарэцкі. Якое значэнне Курапаты маюць для вас асабіста, і якое для беларускага народа?***

— Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій ва ўрочышчы Курапаты, яго наваколле (зона аховы), сама Курапацкая зямля, западзіны, з'яўляюцца і сведчаннем, і сведкамі велізарнай трагедыі беларусаў, нямым, нерухомым помнікам дзяржаве-забойцы, дзяржаве-тэрарысту, дзяржаве-кату, якой на той момант быў СССР. Курапаты — месца, з якога пачалося адраджэнне беларусаў як нацыі, незалежнай, высокадухоўнай, культурнай, цывілізаванай краіны Беларусь. Курапаты — своеасаблівы тэст на чалавечую годнасць, адказ, кім мы ёсць. Я хачу, каб кожны палітык, дзяржслужбовец, у тым ліку і кіраўнік дзяржавы, заступаючы на пасаду, тут, у месцы чалавечага болю, даў клятву служыць беларускаму народу і ніколі не ўжываць гвалт, рэпрэсіі, катаванні, цаніць чалавечае жыццё, берагчы людзей, змагацца за кожнага жыхара Беларусі. Толькі тады мы зможам мець надзею, што падобнае масавае знішчэнне людзей дзяржавай застанецца страшным мінулым і ніколі не паўторыцца. Зараз мы толькі на пачатку адраджэння, змаганне за Беларусь працягваецца, і Курапаты сёння — цэнтр гэтага змагання.

***— Больш за сем месяцаў працягваецца Варта абароны Курапатаў, і зараз маюцца ўсе падставы меркаваць, што яна стане самай працяглай грамадскай кампаніяй абароны за ўвесь 30-гадовы летапіс Народнага Мемарыялу. Праз што гэтая Варта патрапіць у найновую гісторыю Беларусі?***

— Курапацкая варта — гэта людзі, звычайныя беларусы, самаахвярныя, адказныя, упартыя ў сваім жаданні дамагчыся Праўды, выканання Закону. Людзі, якія разумеюць, што лінія абароны Беларусі, фронт змагання за Беларусь знаходзіцца зараз тут, у Курапатах, што існаванне ў зоне аховы мемарыялу рэстаранна-забаўляльнага комплексу «Поедем поедим» (колішні «Бульбашъ-хол», заўв. аўт.) — гэта абраза нацыі, гэта працяг катаванняў, працяг забойства беларусаў у новай, як зараз кажуць, гібрыднай форме, гэта вайна з усё той жа камуністычнай сістэмай, карані якой дагэтуль не знішчаны і даюць свае парасткі, вайна з карупцыяй, змаганне за Чалавека, як бы высокамоўна гэта ні гучала. Спадзяюся, што Курапацкая варта так і ўвойдзе ў найноўшую гісторыю Беларусі — як працяг абароны беларусамі сваёй краіны ад камуністычнага зла, яго наступстваў.

***— Улады ўпершыню за сваю гісторыю здолелі вызнаць, што Курапаты з'яўляюцца нацыянальным Некропалем, месцам спачыну вялізнай колькасці расстраляных савецкімі карнікамі жыхароў Беларусі. Ад дзяржавы быў упершыню ўсталяваны помнік. Ці здатная сённяшняя ўлада зрабіць сапраўдныя, рэальныя крокі дзеля ўшанавання памяці забітых? Якімі гэтыя крокі маюць быць насамрэч?***

— На жаль, я ўпэўненая, што сучасная ўлада не здольная на сапраўдныя, рэальныя крокі дзеля ўшанавання памяці ахвяраў дзяржтэрору з той прычыны, што ва ўладзе зараз нашчадкі камуністычнай сістэмы, нашчадкі супрацоўнікаў НКУС, нашчадкі забойцаў курапацкіх ахвяраў. Пакуль не будзе пакаяння на дзяржаўным узроўні за масавыя, узаконеныя катаванні, знішчэнне людзей, не адбудзецца асэнсаванне і асуджэнне злачынстваў бальшавізму (у тым ліку сталіністаў), не будуць адкрытыя архівы і агучаная праўда — усе дзяржаўныя помнікі будуць фіктыўнымі, а рэпрэсіі супраць мірных грамадзян працягнуцца ў тых ці іншых формах.

***— Частка так званых абаронцаў прыватнага бізнесу лічаць, што актывісты Варты адпрацоўваюць нечыя грошы і стаяць за нечымі інтарэсамі. Некаторыя выказваюць думку, што дзеянні Варты абароны наагул супрацьзаконныя. Якія падстаўовыя аргументы вы можаце ім прывесці? На што абапіраецца Варта абароны Курапатаў?***

— Курапацкая варта — гэта цалкам стыхійная з'ява, гэта самаарганізацыя неабыякавых людзей, якім баліць за тое, што зараз адбываецца з Курапатамі, з краінай. Падмуркам законнасці дзеянняў абаронцаў з'яўляецца Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, Прадпісанне Мінкультуры, Прадстаўленне Генпракуратуры ад 27.12.2018 года, у якім дакладна сказана пра самавольны захоп бізнесоўцамі зямель зон аховы мемарыяла Курапаты, пра самавольнае будаўніцтва рэстарацыі. Прадстаўленне адваротнай сілы не мае, але ж тым не менш яно не выканана. Чым больш трымаецца Курапацкая варта, тым больш сведчанняў наўмыснага злачынства на Курапацкай зямлі мы маем. Спадзяюся, што хутка адбудзецца суд, які дасць прававую ацэнку дзеянням чыноўнікаў і бізнесоўцаў, хаця, канешне, я разумею, якая ў нас судовая сістэма, але ж тым не менш. Хачу заявіць усім ворагам Курапацкай варты: не шукайце спонсараў абароны Курапатаў, бо іх папросту няма. Курапацкая варта — гэта самаахвярны чын людзей, валанцёраў па духу, і таму Курапацкую варту нельга перамагчы. Бо як можна перамагчы праўду?!

***— З 2007 года пасля знакамітай Мюнхенскай прамовы Пуціна праводзіцца агрэсіўная палітыка расійскага неаімперыялізму. У Расійскай Федэрацыі вельмі актыўна адраджаецца культ Сталіна. Правам арэнды на ўсю зямлю пад забаўляльна-рэстарацыйным комплексам «Поедем поедим» з плошчай прыблізна 1,2 гектара валодае расійская кампанія ТАА «Ренессанс». Валодае аж но да 2106 (!) года. Таксама мы бачым, як шматлікія прадстаўнікі «руского мира» і шчырыя сталіністы гуртуюцца вакол гэтай рэстарацыі. Ці не зацікаўленая перадусім Расія ў дэсакралізацыі і дыскрэдытацыі Народнага мемарыялу? Ці не намагаецца Расія навязваць занурыць Беларусь у сваю ментальную і культурніцкую прастору?***

— Расійская імперыя — гэта спрут, які сваімі шчупальцамі ахапіў усё навокал, у тым ліку і беларускае грамадства, уладу, бізнес. Добрым прыкладам ёсць змаганне курапацкіх валанцёраў-талакоўцаў са шкодным кустоўем спірэяй, якая за 30 гадоў распаўсюдзіла свае карані-шчупальцы па ўсёй тэрыторыі мемарыялу, і зараз патрэбна некалькі гадоў добраўпарадкавання тэрыторыі, каб цалкам пазбавіцца гэтай шкоднай расліны. Так і з імперыяй-суседкай, якая спрабуе захапіць нашу Беларусь, навязваючы нам сваё бачанне развіцця цывілізацыі, падмяняючы нашу мову, гісторыю, насаджваючы на нашай тэрыторыі падобныя «бульбашъ-холы», пераварочваючы чалавечую мараль з ног на галаву, што робіць для некаторых магчымым апраўданне масавага знішчэння дзяржавай Сталіна сваіх грамадзянаў, знішчэння генетычнага коду памяці і сама захавання беларускай нацыі, што, у сваю чаргу, прывядзе да знішчэння суверэнітэту краіны, да паглынання Беларусі Імперыяй Зла.

***— У Беларусі пабудаваная так званая «Лінія Сталіна» — па сутнасці, самы вялікі яму помнік на планеце. На дзяржаўным узроўні святкуюць 7 лістапада — дату бальшавіцкага перавароту, у выніку якога былі забітыя дзясяткі мільёнаў чалавек. Камуністычны правадыр кіруе беларускай сістэмай адукацыі, а галоўны міліцыянт дэманстратыўна дэфілюе ў форме НКУС. Ці, можа, уся праблематыка вакол Курапатаў звязаная з тым, што яны — натуральная перашкода на шляху канчатковага ўхвалення ўладай палітыкі сталінізму?***

— Прыкладаў навязвання беларусам неасталінізацыі хапае, гэта і «Лінія Сталіна», гэта і міністр МУС Шуневіч у форме энкавэдыста, які замест пакаяння распавядае пра гераічных байцоў гэтай злачыннай арганізацыі, ставіць ім помнікі па ўсёй Беларусі. Адбываецца замоўчванне страшных дзеянняў сталіністаў, што апраўдвае такім чынам катаў, апраўдвае забойствы супрацоўнікамі НКУС мірных грамадзян у СССР. Заклікаю беларусаў байкатаваць рэстарацыю «Поедем поедим» побач з Курапатамі, байкатаваць фірмы, якія дапамагаюць існаванню гэтай рэстарацыі, байкатаваць «Лінію Сталіна», патрабаваць адстаўкі Шуневіча, актыўна рэагаваць на кожны такі выклік. Разам мы можам і абавязаны захаваць нашу краіну Беларусь. Добраўпарадкаванне Курапатаў, дбанне пра Беларусь — справа кожнага з нас.

***— Акрэсліце тры галоўныя станоўчыя дасягненні Варты абароны Курапатаў.***

— Па-першае, гэта яднанне, самаарганізацыя, салідарнасць беларусаў, якая з кожным днём узрастае. Па-другое, вера ў будучыню Беларусі, вера, што падобнае масавае забойства дзяржавай сваіх людзей больш ніколі не паўторыцца, бо мы здольныя захаваць памяць, здольныя вынішчыць ген страху і стаць жыццярадасным еўрапейскім народам, а не прыгнечанымі рабамі імперыі. Ну і, па-трэцяе, вера ў справядлівасць, вера ў чалавека, які адчувае ў сваім сэрцы Бога і кіруецца яго законамі.

***— На ваш погляд, якія адмоўныя чыннікі выявіла Варта абароны Курапатаў?***

— Гэта — слабасць нашых палітычных партый, рухаў, арганізацый. Варожасць, супрацьў Курапацкай варце ў асяродку беларускага чыноўніцтва, якое даўно павінна было закрыць рэстарацыю, выконваючы патрабаванні Канстытуцыі і іншых законаў Рэспублікі Беларусь, але ж ад страху згубіла прытомнасць, розум, гонар і годнасць. Таксама адмоўным ёсць апраўданне злачынных дзеянняў чыноўніцтва і бізнесу некаторымі грамадскімі дзеячамі, палітыкамі. Здрада і падмена паняццяў, супрацоўніцтва са злачынцамі за грошы апошніх.

***— Што рабіць, каб абаронцы Курапатаў перамаглі, а разам з імі і ўся Беларусь?***

— Трэба верыць, не спыняцца на палове шляху. Вера робіць нас моцнымі і непахіснымі. Ісці і рухацца наперад. Курапацкая варта — гэта не толькі абаронцы побач з мемарыялам, гэта вялікая колькасць людзей, салідарных з намі. Іх малітвы, іх падтрымка, іх моц абавязкова прывядуць да перамогі.

***— Вы маеце выдатную магчымасць звярнуцца да чытачоў «Новага Часу» з заклікам да веры і дзеянняў…***

— Звяртаючыся да чытачоў, хачу заклікаць вас, сябры, станавіцца ў шэрагі абаронцаў мемарыялу Курапаты, у шэрагі абаронцаў Беларусі. Неабавязкова прысутнічаць на Варце фізічна, трэба кожнаму рабіць хаця б маленечкія крокі салідарнасці, распаўсюджваць інфармацыю пра Курапаты, пра Курапацкую варту, заклікаць сваіх сяброў і знаёмых байкатаваць рэстарацыю, байкатаваць тых, хто супрацоўнічае з рэстарацыяй, адгукацца на нашы звароты, петыцыі, праводзіць розныя флэшмобы, у тым ліку інфармацыйныя, не быць абыякавымі — і мы абавязкова пераможам. А хто зможа знайсці час — далучайцеся да абаронцаў, да Курапацкай варты. Насамрэч колькасць удзельнікаў штодзённай Курапацкай варты наўпрост уплывае на тое, як хутка рэстарацыя будзе зачыненая. Курапацкая варта трывае штодня, зімовы фармат з 16-00 да 21-00. Далучайцеся! Жыве Беларусь!

# «Засталося пару месяцаў, хацелася б пагладзець на неба, на людзей...»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Юрый з невылечнай хваробай спачатку дамагаўся групы па інваліднасці, цяпер вымушаны прадаваць машыну, каб набыць апарат штучнай вентыляцыі лёгкіх, які зможа працягнуць яму жыццё. А на просьбу мужчыны ўсталяваць у пад'ездзе пад'ёмнік дзяржава прапанавала валанцёраў БРСМ, якія змогуць выносіць яго на вуліцу.**

Юрыю Пуздрову 57 гадоў, амаль чвэрць стагоддзя ён жыве ў шлюбе з жонкай Ганнай, мае 22-гадовага сына. Да нядаўняга часу мужчына працаваў бухгалтарам, наведваў спартыўную секцыю, штогод хадзіў у турыстычныя водныя паходы па рэках Беларусі, вадзіў машыну. Але чатыры гады таму ўсё яго жыццё змянілі тры літары — БАС — абрэвіятура дыягназу, якая расшыфроўваецца як «бакавы аміятрафічны склероз».

БАС (вядомы таксама як хвароба маторнага нейрона, ці хвароба Шарко) — захворванне рэдкае, слаба вывучанае і, на жаль, невылечнае. Кажучы простай мовай, яна паражае нейроны, якія даюць цягліцам сігнал рухацца. У выніку адмірання нейронаў наступае параліч — і цягліцы атрафіруюцца. У лістападзе ад БАС памёр 57-гадовы стваральнік мультфільма пра Спанч Боба Стывен Хілінг. 13 мільярдаў долараў, якія прынёс яму мультфільм, не выратавалі мультыплікатара.

### «Праз месяц не змагу трымаць кубак»

Тое, што з арганізмам адбываецца нешта незразумелае, Юрый Пуздроў заўважыў у пачатку 2013 года.

— Я хадзіў у спартыўную секцыю, і стаў адчуваць слабасць. Але не надаў гэтаму значэння. Да таго ж у мяне дыягнаставалі глаўкому, пры якой фізічныя нагрузкі забароненыя, і я перастаў займацца. Але без нагрузак слабасці не адчуваў, — распавядае мужчына.

У першы год хваробы Юрыю стала цяжка бегаць. Потым ён перастаў сціскаць левую руку ў кулак. Паступова сталі адмаўляць пальцы на правай руцэ: стала немагчыма пісаць, трымаць нажніцы, зашпільваць гузікі. У 2017 годзе Юрый вымушаны быў адмовіцца ад бухгалтарскай працы.

Падступнасць хваробы Юрыя яшчэ і ў тым, што чым мацнейшую нагрузку атрымліваюць клеткі, тым хутчэй яны гінуць. Такім чынам, недапушчальная ніякая стымуляцыя, трэба пазбягаць любых «лішніх» рухаў.

— Цяпер для мяне праблема — прайсці з пакоя ў пакой. Не магу трымаць напоўненым маленечкі кубачак кавы, і ведаю, што праз месяц не змагу трымаць яго зусім. Не магу самастойна апрануцца. Цяпер пачаліся праблемы з дыханнем, не хапае паветра — і гэта фінальная ступень, — распавядае мужчына, які цяпер не можа справіцца са звычайнымі побытавымі задачамі без дапамогі жонкі.

Дыягназ БАС Юрыю паставілі ў верасні 2014 года і папярэдзілі: хвароба доўжыцца да пяці гадоў. Праўда, праз тры месяцы падчас абследавання кансіліум змяніў дыягназ на «спінальна-мышачную атрафію», патлумачыўшы гэта тым, што ён дае больш спрыяльны прагноз (да 10–15 гадоў жыцця). Але праз 2,5 года дыягназ БАС зноў пацвердзілі.

### Бітва за групу

Нягледзячы на невылечны дыягназ, Юрыю давялося «паваяваць», каб атрымаць адпаведную захворванню першую групу інваліднасці.

— За тры гады я прайшоў восем МРЭК, хаця павінен быў прайсці толькі тры, — кажа мужчына. — Трэцюю групу мне далі адразу, праз год — зноў трэцюю. Яшчэ праз год мне зноў даюць трэцюю і пішуць, што я не маю патрэбы ў дапамозе, хаця жонка ўжо мяне апранае і распранае.

Юрый не пагадзіўся з гэтым, і праз месяц яго накіравалі на паўторную камісію, якая зноў пацвердзіла трэцюю групу. Пасля чарговага абскарджання яго накіравалі ў РНПЦ медыцынскай экспертызы і рэабілітацыі ў Гарадзішчы ў Мінскім раёне. Пасля кансультацыі ў Інстытуце неўралогіі быў пацверджаны дыягназ «хвароба маторных нейронаў», таксама спецыялісты інстытута рэкамендавалі Юрыю прайсці экспертную камісію на першую групу інваліднасці.

— Але ў парушэнне інструкцыі па праходжанні камісіі мне пакінулі другую групу. Хаця ў інструкцыі напісана, што калі дыягназ абсалютна не спрыяльны, то першая група інваліднасці надаецца аўтаматычна незалежна ад стану хворага. Я настойваю, каб мяне накіравалі на паўторную камісію, і яна зноў ставіць другую групу.

Яе ж пацвердзіла наступная камісія ў Мінску, мужчына зноў гэта аспрэчыў, і нарэшце зноў у Гарадзішчы яму паставілі першую групу інваліднасці.

Юрый звяртае ўвагу, што Гарадзішча размешчана ў 23 кіламетрах ад Мінска. Туды не кожны зможа дабрацца, таму многія перастаюць змагацца за належную ім групу інваліднасці.

### Пад'ёмнік быў патрэбны яшчэ ўчора

Юрыю Пуздрову давялося «адваёўваць» не толькі адпаведную групу інваліднасці, але і безбар'ернае асяроддзе ў пад'ездзе. Ужо цяпер мужчына не можа самастойна выйсці на вуліцу. Каб пераадолець шэсць апошніх прыступак у пад'ездзе, неабходны электрычны пад'ёмнік.

У першы раз наконт яго ўсталявання Пуздровы звярнуліся ў ліпені мінулага года. Прайшлі розныя інстанцыі — ад ЖЭСа да пракуратуры і Камітэта дзяржкантролю. Спачатку ўлады адказвалі, што на 2018 год грошай на пандус няма, магчыма, знойдуцца ў 2019-м.

— Гэты з'езд патрэбны быў мне яшчэ ўчора. Але цяпер у мяне пачаліся праблемы з дыханнем, а на паветры лепшае забеспячэнне кіслародам. Засталося пару месяцаў, хацелася б пагладзець на неба, на людзей... А праз паўгода з'езд ужо будзе непатрэбны, — канстатуе Юрый.

З улікам тэрміновасці ўлады нарэшце пагадзіліся выдзеліць сродкі раней. Ужо складзены каштарыс прац, але ён павінен прайсці экспертызы ў дзвюх розных установах, затым у другім квартале 2019 года абвесцяць тэндар па пошуку арганізацыі, якая зоймецца ўсталяваннем пад'ёмніка. Ні дакладныя тэрміны, ні кошт яго ўстаноўкі не паведамляюцца. Затое Мінгарвыканкам да ўсталявання пад'ёмніка прапанаваў дапамогу валанцёраў БРСМ, якія б маглі выносіць Юрыя на вуліцу.

— Хацеў бы я паглядзець, як яны вынесуць хаця б удвая лягчэйшую за мяне жонку! — абураецца мужчына. — Бюракратыя працуе марудней, чым хвароба, — заключае ён.

— Дзяржава мусіць забяспечыць безбар'ернае асяроддзе. Гэта добра, што яна прапануе варыянт з валанцёрамі БРСМ, але ж гэта не здымае з яе абавязак па забеспячэнні даступнасці. Да таго ж валанцёры не з'яўляюцца спецыялістамі. І калі з чалавекам, які важыць 90 кілаграм, раптам нешта адбудзецца, — хто будзе несці адказнасць? Таму мы разглядаем магчымасць падаць у суд, але яшчэ не вырашылі да канца, ці варта гэта рабіць. Пакуль даем дзяржаве шанец выканаць свае абавязкі, — кажа юрыст Офіса па правах людзей з інваліднасцю Алег Граблеўскі.

### Каб кантраляваць дыханне, даводзіцца спаць днём

Пры размове Юрый раз-пораз перапыняецца, каб набраць паветра ў лёгкія: дыхання не хапае.

— Мне ноччу даводзіцца не спаць, каб кантраляваць дыханне. Я цяпер сплю з сямі раніцы да дзвюх гадзін дня. Бо калі лягу спаць ноччу — прачнуся ад удушша, — тлумачыць мужчына.

Жыццё хворых БАС можа падтрымлівацца толькі штучнай вентыляцыяй лёгкіх. І Юрыю яна неабходная як найхутчэй. Для людзей з такім захворваннем выкарыстоўваюць інвазіўныя (калі ў гартань уводзіцца трубка) і неінвазіўныя (маска) апараты ШВЛ.



Юрыю дапамагае жонка Ганна Пуздрова

У Беларусі неінвазіўны апарат ШВЛ для хворых БАС можна купіць за 5 000 долараў. У суседняй Польшчы ён каштуе ўдвая танней. Таксама Пуздровы разглядаюць варыянт набыць яго ў Расіі — атрымаецца не так дорага, як у Мінску.

— Для гэтага я прадаю сваю машыну, старэнькую БМВ, — кажа Юрый.

Але апарат мала набыць — яго яшчэ трэба правільна наладзіць. Для гэтага хвораму трэба прайсці полісамнаграфічнае абследаванне ў сталічным Цэнтры здаровага сну за 160 рублёў. Пуздровы пры дапамозе Офіса па правах людзей з інваліднасцю дамагліся бясплатнага абследавання для Юрыя.

### Фантан ці сацпадтрымка?

Чалавек з БАС, захоўваючы поўную свядомасць, разумее, што будзе з яго целам далей, але ніяк не можа паўплываць на сітуацыю. Большасць сродкаў рэабілітацыі хворым неабходна набываць за ўласныя грошы. Хіба што на 20% танней Пуздровы змаглі набыць супрацьпролежневы матрац, а таксама мясцовы ТЦСАН выдзеліў ім у карыстанне на пяць гадоў інвалідны вазок. З такой цяжкасцю атрыманая першая група інваліднасці дае права купляць лекі за 10 працэнтаў ад кошту, але не ўсе, а толькі беларускія. А іх недастаткова. Да таго ж людзям з такім дыягназам неабходна ўзмоцненае харчаванне з вялікай колькасцю бялку, абавязковае ў рацыёне мяса.

Юрый мае права на бясплатны праезд у транспарце (пры гэтым, нагадаем, ён не можа самастойна выйсці з кватэры), а таксама на адрасную сацыяльную дапамогу ад дзяржавы па заяве. У мінулым годзе Пуздровым выдалі 100 рублёў такой дапамогі, хаця сума ў сабраных Ганнай чэках была ўтрая большай. Застаецца толькі дадаць, што Юрый атрымлівае пенсію па інваліднасці ў памеры 480 рублёў, а пенсія Ганны па ўзросце складае 300 рублёў плюс 180 рублёў заробку штомесяц.

— У Беларусі людзі плацяць падаткі, у тым ліку для сацыяльнай абароны. Але калі я зазірнуў у гэтую скарбончку — там аказалася пуста. А фантан ля новага будынку Вярхоўнага суда каштуе 300 тысяч долараў, — падсумоўвае Юрый Пуздроў.

Паводле яго словаў, у Германіі на хворых БАС штогод выдаткоўваюць больш за 50 тысяч еўра. У Амерыцы разавая дапамога пасля пастаноўкі дыягназу БАС складае якраз кошт аднаго фантану ля беларускага Вярхоўнага суда — 300 тысяч долараў.

### Нельга вылечыць, але можна дапамагчы

У нашай сацыяльнай дзяржаве пакуль няма ніводнай медыцынскай установы, дзе людзі з БАС маглі б атрымаць комплексную дапамогу. З ініцыятывы ўрача-неўролага Мінскага РНПЦ неўралогіі і нейрахірургіі Юліі Рушкевіч цяпер ствараецца «Служба дапамогі людзям з БАС». Гэта каманда дактароў (неўролаг, рэспіраторны тэрапеўт, спецыяліст па ЛФК, псіхіятр), дапамога якіх неабходная людзям з такім захворваннем. Раз на месяц яны праводзяць мультыдысцыплінарныя прыёмы пацыентаў з БАС і іх сваякоў з усёй Беларусі На працу «Службы дапамогі» сродкі збіраюць праз часопіс «Імёны».

Але комплекснай дапамогі на дзяржаўным узроўні для людзей з такой хваробай няма.

— Мне толькі Аня дапамагае, — з удзячнасцю кажа Юрый пра жонку. — І яшчэ сястра, а таксама стараюцца падтрымліваць таварышы.

І прызнаецца: калі быў здаровы, быў супраць эўтаназіі. А цяпер перакананы, што ў гэтым пытанні ў чалавека павінен быць выбар.

Ганна ж спадзяецца, што ў іх сям'і адбудзецца цуд. Яны здараюцца — у гэтым жанчына пераканалася на ўласным досведзе.

— У 2002 годзе я перанесла цяжкую аперацыю па страўніку, у мяне была анкалогія. Урачы нават казалі, што праз месяц мяне ўжо не будзе... І тады я дала слова: калі застануся жыць, буду хадзіць у касцёл. З тых часоў слова трымаю, — усміхаецца жанчына.



**Біл Клінтан падчас сустрэчы з жыхарамі Мінска, студзень 1994 года.** Крыніца: kp.by

**Беларускі бок старанна вывучыў афіцыйныя біяграфіі Клінтана, ягонай жонкі і чальцоў дэлегацыі, што павінны былі наведаць Беларусь. Усе гэтыя біяграфіі, якія былі перададзеныя беларускаму пасольству ў Вашынгтоне, захаваліся ў архіве Шушкевіча**

# Сустрэць Біла, альбо твар у твар з Амерыкай

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання 26 снежня 1993 года пры абмеркаванні пытання аб працы часовай камісіі па вывучэнні дзейнасці камерцыйных структураў пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання яе старшыня Аляксандр Лукашэнка абрынуўся з вострай крытыкай на старшыню парламента Станіслава Шушкевіча: «Объясните мне этот документ: здесь распорядок дня приезда американского президента, кто и где будет сидеть! Это вы так отстаиваете суверенитет?! Вы потеряли моральное, а может быть, даже юридическое право руководить таким государством, которым является Республика Беларусь».**

Гаворка ішла пра візіт у Беларусь 15 студзеня 1994 года 42-га прэзідэнта ЗША Уільяма Джэферсана Клінтана. Гэта была адметная падзея ў найноўшай гісторыі Беларусі. І хаця наведванне Мінска з боку высокага заакіянскага госця было больш сімвалічным, тым не менш яно сведчыла, што сусветны лідар гатовы працягнуць руку маладой незалежнай дзяржаве.



**Біл Клінтан вітае ветэранаў на плошчы Перамогі ў Мінску, студзень 1994 года.** Крыніца: kp.by

## Візіт Клінтана ў адказ

Справа ў тым, што 21–23 ліпеня 1993 года ЗША з афіцыйным візітам наведаў старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч (амерыканскі бок праз міністра замежных спраў Беларусі Пятра Краўчанку перадаў пісьмовае запрашэнне на імя Шушкевіча яшчэ ў красавіку 1993 года). Такое запрашэнне можна лічыць палітычнай перамогай.

Кансерватыўная дэпутацкая большасць у Вярхоўным Савеце імкнулася нават паставіць пытанне аб мэтазгоднасці паездкі Шушкевіча ў ЗША. Напрыклад, 30 чэрвеня 1993 года дэпутат, чалец пракебічаўскай парламенцкай групы «Беларусь» Іван Трусаў прапанаваў адкласці візіт Шушкевіча ў Вашынгтон, «учитывая катастрофическое экономическое положение республики». Аднак такую ініцыятыву падтрымалі толькі 44 дэпутаты.

У выніку візіту Станіслава Шушкевіча, які меў аўдыенцыю ў прэзідэнта Біла Клінтана і спікера Палаты прадстаўнікоў Кангрэса Тома Фолі, была падпісана Сумесная дэкларацыя аб стасунках паміж Злучанымі Штатамі Амерыкі і Рэспублікай Беларусь. У гэтым дакуменце ЗША падтрымлівалі незалежнасць Беларусі і намаганні нашай краіны стварыць справядлівае і стабільнае грамадства, у якім гарантуюцца асноўныя свабоды для ўсіх народаў, абяцалі пашырыць гандлёвыя кантакты з Рэспублікай Беларусь на прынцыпах эканамічнай свабоды, аказаць ёй садзейнічанне ў правядзенні эканамічных рэформаў і пераадоленні наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, умацаваць адносіны ў галіне навукі, энергетыкі, культуры, мастацтва, адукацыі, правa, турызму, абмену студэнтамі і інш.

Падчас свайго візіту Шушкевіч і запрасіў Клінтана ў Беларусь. Своеасаблівай артпадрыхтоўкай візіту Клінтана ў Мінск стаў прыезд у Беларусь 26 кастрычніка 1993 года дзяржсакратара ЗША Уорэна Крыстафера. Ён заявіў, што Злучаныя Штаты гатовыя дапамагчы Беларусі ў цяжкі для яе пераходны перыяд на шляху да рынкавых рэформаў і дэмакратыі. Таксама на сустрэчы абмяркоўвалася пытанне абрання Беларусі ў якасці непастаяннага сябра Савета Бяспекі ААН (у кастрычніку 1993 года непастаянным сябрам стала Чэхія, якая абышла Беларусь) і ўдзел нашай краіны ў новай амбіцыйнай знешнепалітычнай праграме Біла Клінтана «Партнёрства дзеля міру».

## Галоўнае — зброя

Безумоўна, у амерыканцаў былі свае мэты. Пытанне ядзернай зброі, якая была размешчана на тэрыторыі краіны. На канец 1991 года на нашай тэрыторыі налічвалася звыш 70-ці стратэгічных ракет класа «СС-25» і пэўная колькасць мабільных установак.

Яшчэ 27 ліпеня 1990 года ў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусь замацавала свой намер стаць нейтральнай і без'ядзернай дзяржавай. Ужо пасля роспуску СССР, 18 снежня 1991 года, падчас візіту ў Мінск дзяржсакратара ЗША Джэймса Бейкера беларускае кіраўніцтва выказала жаданне пазбавіцца атамнай зброі.

Беларусь паслядоўна ішла па абраным курсе. 23 мая 1992 года яна разам з ЗША, Расіяй, Украінай і Казахстанам падпісала так званы Лісабонскі дагавор. Паводле яго Беларусь стала ўдзельніцай савецка-амерыканскага дагавора аб скарачэнні стратэгічнага наступальнага ўзбраення (СНВ-1), падпісанага Міхаілам Гарбачовым і Джорджам Бушам-старэйшым у ліпені 1991 года.

4 лютага 1993 года Вярхоўны Савет Беларусі большасцю галасоў ратыфікаваў Лісабонскі дагавор. Такім чынам, жаданне Беларусі пазбавіцца атамнай зброі стала адной з прычынаў добрых адносінаў з ЗША.

## Еўрапейскае турнэ

Канешне, амерыканскі прэзідэнт не планаваў спецыяльна наведаць Беларусь. Амерыканцы лічылі, што гэта не тая вага і не той маштаб. Аднак усё ж такая магчымасць прадставілася.

2 снежня 1993 года прэсавая служба Белага дома распаўсюдзіла спецыяльную заяву. У ёй гаварылася, што Біл Клінтан мае намер на працягу студзеня 1994 года здзейсніць спецыяльнае турнэ па Еўропе. Такое турнэ, гаварылася ў заяве, павінна пацвердзіць, што Еўропа займае вельмі важнае месца ў палітыцы ЗША. Турнэ Клінтана павінна было пачацца з Брусэлю 9 студзеня. 10 студзеня амерыканскі прэзідэнт сустракаўся з кіраўнікамі дзяржаў —сябраў NATO, а 11 студзеня — з сябрамі «Вышаградскай групы» (Польшча, Венгрыя, Чэхія і Славакія). З 12 па 15 студзеня Біл Клінтан знаходзіўся з афіцыйным візітам у Расіі.

Трэба адзначыць, што адміністрацыя Клінтана на той час падтрымлівала Ельцына і рашуча стала на яго бок падчас драматычных вераснёўска-кастрычніцкіх падзей 1993 года ў Расіі. У асабістым архіве Шушкевіча маецца заява Белага дома наконт поўнай падтрымкі знакамітага ўказа Ельцына №1400 ад 21 верасня 1993 года аб роспуску Вярхоўнага Савета і прызначэнні выбараў у новы заканадаўчы і прадстаўнічы орган — Дзяржаўную Думу).

Нарэшце, 15 студзеня Клінтан мусіў наведаць Беларусь. У заяве канстатавалася, што Рэспубліка Беларусь прадэманстравала жаданне існаваць па без'ядзерным шляху і ратыфікавала СНВ-1.

## Усе госці да нас

У асабістым архіве Станіслава Шушкевіча захавалася кароткая даведка пра гісторыю і грамадска-палітычны лад жыцця Злучаных Штатаў. Таксама захавалася даведка наконт актуальных праблемаў тагачаснай палітыкі ЗША. Даведка без подпісаў, хутчэй за ўсё, была падрыхтаваная спецыялістамі міністэрства замежных спраў. Паводле даведкі, 1993-ці быў для адміністрацыі Клінтана годам як значных поспехаў, так і «огорчительных просчётов». Даведка паведамляла, што апошнім часам Клінтан сканцэнтраваўся на вырашэнні рэгіянальных і ўнутраных пытанняў: у прыватнасці, стварэнне зоны свабоднага гандлю (НАФТА) і рэформа сістэмы аховы здароўя. У даведцы мелася такая выснова: «В результате массированной обработки населения, усилиями всей пропагандистской машины Белого дома, администрации удалось добиться заметных для себя сдвигов в общественном мнении».

Аднак далей паведамлялася, што справы на знешнепалітычным фронце не такія добрыя. Паводле агульнанацыянальнага апытання, якое было праведзена ў лістападзе 1993 года, знешнюю палітыку Клінтана крытыкавалі ажно 48% амерыканцаў. Клінтану закідваліся непаслядоўнасць у адносінах з Еўропай, змякчэнне пазіцый наконт Ірака і іншае.

Беларускім бокам старанна былі вывучаны афіцыйныя біяграфіі Клінтана, ягонай жонкі і чальцоў дэлегацыі, што павінны былі наведаць Беларусь. Усе гэтыя біяграфіі, якія былі перададзеныя беларускаму пасольству ў Вашынгтоне, захаваліся ў архіве Шушкевіча.

Напрыклад, у біяграфіі Біла Клінтана, акрамя ўсіх неабходных звестак, было і такое: «Любит читать, увлекается бегом трусцой и игрой в гольф, иногда играет на саксофоне». Што да першай лэдзі Амерыкі, то яна нарадзілася «в дружной семье», «всегда интересовалась политикой», а ў публічных

заявах шмат разоў казала пра неабходнасць знайсці аптымальны баланс паміж працай, сям'ёй і грамадска-палітычнай дзейнасцю. У 1974 годзе Хілары Клінтан была прыцягнутая да працы ў юрыдычным камітэце Палаты прадстаўнікоў для расследавання знакамітай Уотэргейцкай справы. Яна вяла дакументацыю па імпічменце. Падчас губернатарства Клінтана ў Арканзасе Хілары займалася праблемамі дзяцей і распрацавала якасна новую форму дашкольнага выхавання. Даведка паведамляла, што ў 1983 годзе Хілары Клінтан атрымала тытул «Жанчына года Арканзаса», а ў наступным — «Маці года».

Цэнтральнай фігурай у складзе амерыканскай дэлегацыі быў, канешне, Уорэн Крыстафер, які ў 1967 годзе займаў пасаду намесніка генпракурора ЗША. Крыстафер атрымаў Медаль Свабоды — найвышэйшую грамадзянскую ўзнагароду ЗША. Менавіта яму Клінтан даверыў абрацць кандыдатуру на пасаду віцэ-прэзідэнта.

Далей ішоў Строўб Тэлбат — спецыяльны дарадца дзяржсакратара па справах СНД і «близкий друг Клинтона со студенческих лет». У біяграфіі гаварылася, што гэты былы аглядальнік «Тайм» стаў сапраўдным творцам палітыкі ЗША ў адносінах да краін былога СССР. У біяграфіі паведамлялася, што ўвосень 1993 года Тэлбат напісаў адмысловую нататку, у якой рашуча выказаўся супраць уступлення ў NATO Польшчы, Венгрыі і Чэхіі, хаця Крыстафер і дарадца прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы Энтані Лейк былі не супраць.

У архіве Шушкевіча захаваліся таксама кароткія біяграфіі яшчэ аднаго чальца амерыканскай дэлегацыі Энтані Лейка і пасла ЗША ў Беларусі Дэвіда Суорца.

## Клінтан у Беларусі: што і як?

14 студзеня 1994 года Кебіч і Шушкевіч зацвердзілі канчатковы праект праграмы знаходжання амерыканскага прэзідэнта ў Мінску. 15 студзеня 1994 года амерыканскі борт №1 прызямліўся ў аэрапорце «Мінск–2». Клінтана сустракалі Шушкевіч і Кебіч. Як прыгадваў у сваіх мемуарах «Беларусь на пераломе» міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, адбыўся казус. Біл Клінтан амаль паўгадзіны не выходзіў з лайнера, каб не пабудзіць сваю дачку Чэлсі. У далейшым праблемаў не было.

Паводле праграмы, у Клінтана, яго жонкі і дачкі былі абсалютна розныя мерапрыемствы. Сам Клінтан накіраваўся ў рэзідэнцыю амерыканскага пасла (Вайсковы завулак, 4), дзе ў Блакітнай зале правёў перамовы са Станіславам Шушкевічам і Вячаславам Кебічам. Вельмі адметна, што перамовы вяліся паасобку, што сведчыла аб палярызацыі ўлады ў Беларусі і пэўным вітку супрацьстаяння паміж Шушкевічам і кансерватарамі. На перамовы Кебіч нават сфарміраваў уласную дэлегацыю, куды ўвайшлі Краўчанка, міністр абароны Павел Казлоўскі, міністр фінансаў Сцяпан Янчук і іншыя адказныя асобы.

Першапачаткова было запланавана, што Клінтан сустрэнецца з чальцамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета, кіраўнікамі дэпутацкіх груп. Аднак амерыканскі прэзідэнт пажадаў сустрэцца з прадстаўнікамі апазіцыйных палітычных партый і руху. У прыватнасці, з Клінтанам сустрэліся Зянон Пазняк і кіраўнік «ценявога» ўрада БНФ Уладзімір Заблоцкі. Пасля сустрэчы Пазняк і Заблоцкі заявілі, што амерыканскі прэзідэнт цалкам разумее сітуацыю ў Беларусі, якой кіруюць пракамуністычныя сілы. Пазняк і Заблоцкі акцэнтавалі ўвагу на тым, што дапамога з амерыканскага боку будзе толькі тады, калі ў Беларусі пачнуцца сапраўдныя, а не бутафорскія рэформы.

І сапраўды, у 15-хвілiннай прамове ў Акадэміі Навук перад моладдзю Біл Клінтан канкрэтную дапамогу (100 мільёнаў долараў) абяцаў толькі ў сферы раззбраення. Астатнія словы Клінтана пра тое, што Амерыка заўсёды будзе з Беларуссю, былі прыемныя, але ж абстрактныя. Дзеля справядлівасці варта адзначыць, што Клінтан выказаўся за датэрміновы роспуск Вярхоўнага Савета і як мага хутчэйшае прыняцце новай беларускай Канстытуцыі (25 студзеня 1994 года ў прамове на сесіі Вярхоўнага Савета дэпутат-ветэран Мікалай Лакцюшын заявіў, што Беларусі не патрэбныя замежныя эксперты, якія ўказваюць, як «нам жыць» і якую Канстытуцыю прымаць).

Адзіным рэальным дакументам, падпісаным бакамі, быў дагавор аб заахвочванні і ўзаемнай абароне інвестыцыяў.

Дакументы з фонду Шушкевіча сведчаць, што Злучаныя Штаты вельмі пядантычна



Станіслаў Шушкевіч і Біл Клінтан. Па цэнтры — народны паэт Беларусі, дэпутат Вярхоўнага Савета, старшыня камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч. За Шушкевічам — першы намеснік старшыні Савета Міністраў Міхаіл Мясніковіч, за Мясніковічам — намеснік начальніка навукова-даследчага аддзела Інстытута нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь Міхаіл Пастухоў, студзень 1994 года. Крыніца: kp.by



Хілары Клінтан вітае жонку Станіслава Шушкевіча Ірыну, студзень 1994 года. Побач — жонка Вячаслава Кебіча Алёна. Крыніца: kp.by

ставіліся да дапамогі Беларусі. Напрыклад, у 1993 годзе Беларусь атрымала ад ЗША задарма 150 тысяч тон пшаніцы, 200 тысяч тон кукурузы і 25 тысяч тон соевага шроту. Акрамя таго, у тым жа 1993 годзе Беларусь атрымала крэдыт і закупіла 78,4 тысячы тон соевага шроту. А вось у 1994 годзе ЗША адмовіліся дапамагаць, хаця да новага ўраджаю Беларусі было патрэбна 500 тысяч тон пшаніцы і 100 тысяч тон кукурузы. Міністр сельскай гаспадаркі ЗША Майк Эспі ў пачатку студзеня 1994 года напісаў Шушкевічу, што «ліміт па пшаніцы і кукурузе вычарпаны». Міністр паведамляў, што адзіным прадуктам, які Беларусь можа атрымаць паводле амерыканскай праграмы «Продовольствие ради прогресса», з'яўляецца... сметанковае масла, у тым ліку «в жидком виде».



Хілары Клінтан прывезла ў Беларусь гуманітарную дапамогу, студзень 1994 года. Крыніца: kp.by

## Чырвона-чорныя крумкачы

Радыкальныя камуністычныя сілы, канешне, рашуча выступілі супраць візіту Клінтана. На праспекце Скарыны, каля помніка Феліксу Дзяржынскаму яны зладзілі імправізаваны мітынг з плакатамі кшталту «Клінтан, выбірайся ў Амерыку разам з Шушкевічам!». Аспірант Інстытута гісторыі Акадэміі Навук Беларусі (сённяшні вядомы гісторык) Алег Дзярновіч зрабіў камуністам заўвагу — і стаў ахвярай нападу з іх боку. Аднак міліцыянты палічылі вінаватым Дзярновіча і выпісалі яму штраф, як паведаміла газета «Свабода», за хуліганства.

Левакамуністычная газета Віктара Чыкіна «Мы и время» назвала шасцігадзінную паездку Клінтана па Мінску «инспекционной» і параўнала прыезд у Мінск амерыканскага прэзідэнта з візітам сюды ж у 1943 годзе нацысцкага міністра па акупаваных усходніх землях Альфрэда Розенберга.

Падчас візіту Клінтана ў розных частках беларускай сталіцы можна было заўважыць маладых хлопцаў з чорна-жоўта-белымі павязкамі на рукавах. Гэта былі чальцы моладзевага крыла Славянскага Сабора «Белая Русь». Яны распаўсюджвалі лістоўку пад назвай «Очнись, славянин!», у якой, у прыватнасці, гаварылася: «В результате ублюдочных "реформ" славянские женщин перестали рожать, а старики раньше времени сходят в могилу. Сильные люди, крепко стоящие на своей свободной земле, раз и навсегда возьмут власть в свои могучие руки! Пусть же, обильно политые живой водой Национальной Славянской Воли, намертво срастутся шрамы на теле великого государства!».

Нягледзячы на правакацыі, жыхары і госці сталіцы цёпла сустрэлі амерыканскага лідара, які праяўляў зайздросную камунікабельнасць пры зносінах з простымі людзьмі. Мінчукоў, напэўна, здзіўляла вялікая колькасць аховы з амерыканскага боку (толькі адных снайпераў налічвалася пад 50) і спецыяльна навучаныя сабакі. Рэдакцыі некаторых выданняў сведчылі, што да іх звярталіся жыхары дамоў нумар 37 і 53 з праспекту Скарыны і скардзіліся на міліцыянтаў, якія забаранялі адчыняць вокны.

## Курапаты

Своеасаблівай перамогай дэмакратычных сіл было тое, што Клінтан усё ж наведаў гэтае сакральнае месца, нягледзячы на супраціў КДБ і наменклатуры. Яшчэ 13 студзеня 1993 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета накіраваў у амерыканскае пасольства ліст, у якім паведамлялася, што беларускія праваахоўныя органы не ў стане гарантаваць стоадсоткавую бяспеку Клінтана. Аднак амерыканцы заявілі, што пытанні аховы бяруць на сябе.

У выніку візіт Клінтана ў Курапаты (там была ўжо ўсталявана знакамітая лава) адбыўся прыкладна ў 16 гадзін (да гэтага прэзідэнт усклаў вянок ад амерыканскага народа да абеліска Перамогі). Фактычным гідам Клінтана па Курапатах стаў Зянон Пазняк. Клінтан, у сваю чаргу, быў уражаны тым, як дзеткі заспявалі «Магутны Божа» на верш Наталлі Арсенневай.

## Хілары і Чэлсі

Па прыездзе Хілары накіравалася ў сталічную 4-ю клінічную дзіцячую бальніцу і прывезла гуманітарную дапамогу на суму ў 2,5 мільёна долараў. Чэлсі здзейсніла візіт у музычную вучэльню і паглядзела спектакль «Папялушка».

Пасля маці і дачка накіраваліся ў Тэатр оперы і балета, дзе паглядзелі вакальна-харэаграфічнае прадстаўленне Валянціна Елізар'ева «Карміна Бурана».

Апошні раз візіт Хілары Клінтан у Мінск прыгадвалі ў 2016 годзе, калі яна была афіцыйна зарэгістраваная ў якасці прэзідэнта ад Дэмакратычнай партыі. Невялікі сюжэт выйшаў на дзяржаўным тэлебачанні. Аднак ні кіраўнікі тагачаснай Беларусі, ні іх жонкі, якія ўсюды суправаджалі Хілары, ні дзяржаўная сімволіка — бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» — у кадры не трапілі...

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗІМБАБВЭ. Набывайце квіткі ў рай!

Яшчэ ў чэрвені мінулага года ў Зімбабвэ паліцыя арыштавала за фінансавыя злачынствы мясцовага пастара Ціта Ватса. Справа не выклікала цікавасці ані ў лакальнай прэсе, ані ў сусветнай, пакуль днямі не высвеціліся прычына арышту. Аказваецца, Ватс трапіў за краты праз... продаж квіткоў у рай. Усяго за 500 долараў кожны вернік мог набыць квіток, уладальніку якога пасля смерці гарантавалася атрыманне прапіскі ў садах Эдэму. Жадаючых набыць квіткі хапала, нягледзячы на тое, што сярэдні заробак у краіне складае каля 60 долараў. Сам пастар віны не прызнае ды кажа, што выконваў працу за Бога. Больш за тое, ён сцвярджае, што патэнт на продаж тых квіткоў яму даў Бог падчас асабістай сустрэчы. Падобная гісторыя магла адбыцца, напэўна, толькі ў Зімбабвэ, дзе вернікі фантастычна даверлівыя. У 2017 годзе ў іх не выклікала ніякага скепсісу заява іншага пастара, які сцвярджаў, што мае ў сваім офісе прамую тэлефонную лінію з Богам.

**Паводле французскай прэсы**

### КЫРГЫЗСТАН. Грымасы адной забароны

З 1 студзеня ў Кыргызстане забаранілі пад пагрозай штрафу плявацца на вуліцы. Аматарам такой справы пагражае штраф да 80 долараў. Зараз ужо можна падвесці першыя вынікі экстравагантнага закона. Галоўная выснова — закон быў абсалютна не прадуманы. Пачынаючы з таго, што нават у сталіцы не хапае сметніц, што ўжо казаць пра правінцыю. У дадатак, паліцыя не ў стане сачыць за чысцінёю ходнікаў, а на набыццё камер відэаназірання ў муніцыпалітэтаў банальна няма сродкаў. Аднак галоўная праблема ў іншым. Цяжкасці з забеспячэннем выканання новага закона пагражаюцьператварыць гэты занятак у спосаб выявіць сябе крутым. Першы сігналы на гэты конт ужо ёсць. Нейкі хлопец зняў сябе на відэа пры здзяйсненні незаконнага акта ля ўваходу ў парламент краіны. «Гэтыя парламентарыі, якія рабуюць краіну, якія ўмеюць толькі гаварыць, але нічога не робяць, у іх гонар я, ну, увогуле, глядзіце», — сказаў малады кыргыз перад тым, як смачна плюнуць у напрамку месца працы дэпутатаў. Відэа стала мегапапулярным, і можа, на думку прэсы, выклікаць сярод тынейджараў сапраўдную моду на тое, каб дэманстратыўна плявацца.

**Паводле кыргызскай прэсы**

### АЎСТРАЛІЯ. Яйкі Ку-клукс-клана

Аўстралійскія змагары з праявамі ксенафобіі нечакана выкрылі новую крыніцу прапаганды расізму. Гэтай крыніцай аказаліся вядомыя ва ўсім свеце шакаладкі «Кіндэр сюрпрыз». Шакаладкам днямі споўнілася 50 гадоў, і кампанія вырашыла выдаць лімітаваную серыю цацак-фігурак, якія, як вядома, укладаюцца ў шакаладнае яйка. Сама цацка выглядае як маленькае яйка, якое трымае тры шары з літарай «К». Адна з такіх цацак аказалася ў «Кіндэр-сюрпрызе», які набыла для свайго сына грамадзянская актывістка. Натуральна, яна пабачыла ў трох літарах «К» не што іншае, як абрэвіятуру сумнавядомай расісцкай арганізацыі «Ку-клукс-клан». Выбухнуў скандал. Актывісты пачалі падазраваць кампанію-вытворцу ў сімпатыях да расістаў. Кампаніі, каб давесці сваю невінаватасць, прыйшлося ў выніку знішчыць усю юбілейную партыю і прапанаваць абмяняць скандальныя фігуркі на больш нейтральныя. Скандал дасягнуў такога маштабу, што на інтэрнэт-форумах дапускаюць, што ў выніку «Кіндэр-сюрпрызу» давядзецца шукаць новую назву.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. Цуды выбарчага піяру




Ва Украіне 31 снежня стартавала кампанія па выбарах прэзідэнта. Амаль усе эксперты згодныя: гэтыя выбары будуць фатальнымі для дзяржавы. Але пакуль асаблівага напружання не адчуваецца. Хутчэй, кампанія характарызуецца разгулам піяру і папулізму. Кандыдат у прэзідэнты Украіны, экс-міністр экалогіі Ігар Шаўчэнка вырашыў падчас кампаніі знайсці сабе жонку. На афіцыйным сайце палітыка нават змясцілі форму для запаўнення, дзе «кандыдатка» на жонку можа ўнесці дадзеныя пра сябе. Дарэчы, у Шаўчэнкі каля 2 працэнтаў падтрымкі, што гарантуе будучай жонцы калі не статус «першай лэдзі», то статус жонкі парламентарыя. Пайшоў на выбары і мэр Львова Андрэй Садовы (партыя «Самапоміч»). Галоўным матывам балатавацца стала гісторыя, якую распавяла Андрэю жонка. Ёй, нібыта, сышоў маленькі Ісус, які прызнаўся ў любові да львоўскага бургамістра і загадаў яму ісці перамагаць. А вось кандыдат Анатоль Грыцэнка ў сваім праграмным выступе пабяцаў у выпадку перамогі адсякаць карупцыянерам рукі. І гэта, відаць, толькі пачатак. Паводле разлікаў спецыялістаў, за пасаду ўкраінскага гаранта будуць змагацца каля 200 чалавек, большасць з якіх, безумоўна, робяць стаўку на хайп і папулізм.

**Паводле ўкраінскай прэсы**



Фота www.baaz.com

# Кіроўца супраць прэзідэнта

*Алег НОВІКАЎ*

**Пратэсты «жоўтых камізэлек» у Францыі далі пропуск у вялікую палітыку звычайнаму 33-гадоваму кіроўцу Эрыку Друэ (Eric Drouet), які стаў сімвалам руху, і, адначасова, вельмі перспектыўным палітыкам.**

Жыў-быў у маленькай камуне Мелюн, што пад Парыжам, звычайны кіроўца грузавіка. Увесь дзень ён працаваў, каб вярнуцца ўвечары ў свой маленькі дом да жонкі і маці. Калі выпадаў вольны час, займаўся хобі — рамонтам аўто. Палітыка яго абсалютна не цікавіла. Да таго часу, пакуль у мінулую восень урад не прыдумаў узняць кошт на паліва. У адчаі кіроўца і яго сябры заклікалі праз інтэрнэт да блакады аўтамабільных шляхоў.

Нечакана для аўтараў, маніфест упадабалі некалькі мільёнаў чалавек, шмат з якіх сапраўды выйшлі ў наступны ўік-энд на блакаду. Гэта паклала пачатак руху «жоўтых камізэлек». Так прыйшоў у палітыку Эрык Друэ, які праз 2–3 месяцы стаў сапраўднай мегазоркай. А з у лікам таго, што герою сюжэта якраз 33 гады — узрост Хрыста, — некаторыя пенсіянеры-каталікі нават кажуць пра цудоўнае з'яўленне Месіі.

На самай справе, ніякай метафізікі тут няма. Фурор Эрыка Друэ тлумачыцца шэрагам аб'ектыўных прычынаў. Рух «жоўтых камізэлек» будуецца гарызантальна, не мае структураў, фармальных механізмаў абрання лідараў. Уся каардынацыйная праца адбываецца ў групах на Facebook. Найбольш буйную сярод іх адмініструе менавіта Друэ і два яго сябры. Праз гэтую акалічнасць журналісты, якія асвятляюць цяперашнія бунты ў Францыі, з самага пачатку цікавіліся думкай звычайнага кіроўцы, што ў выніку дазволіла яму стаць пазнавальнай медыяфігурай. Акрамя таго, аўдыторыі імпануе паслядоўная дыстанцыя, якую іх кумір трымае ад палітычнай эліты, намагаючыся, па яго словах, «казаць так, як думаюць простыя людзі».

Адыгралі сваю ролю ў раскрутцы Друэ яго асабістыя характарыстыкі: бескампраміснасць і эгалітарызм. 26 лістапада ён быў запрошаны ў Елісейскі палац на кулуарныя перамовы з Макронам. Напэўна, шмат хто іншы, атрымаўшы такое запрашэнне, разгубіўся, стаў аб'ектам маніпуляцыі і пайшоў бы на дыялог з уладай. Толькі не Друэ. Пасля выхаду з прэзідэнцкага офісу ён заклікаў французаў да наступнай мабілізацыі.

Усё гэта спрыяла паўстанню вакол Друэ сапраўднага міфа. Левыя выданні нават параўноўваюць Друэ з Маратам і Дантонам — персанажамі Вялікай Французскай рэвалюцыі. Часопіс «Journal de dimanche» так апісвае з'яўленне Друэ на вуліцах сталіцы: «Усяго 10 гадзін раніцы, але вакол Эрыка ўжо чарга жадаючых зрабіць сэлфі. «О, Эрык, калі ласка, зрабіце фота з маёй жонкай, і яшчэ адно для маёй свякрухі, яна любіць цябе!» — кажа «жоўтая камізэлька», узрадаваная, што бачыць куміра і можа да яго дакрануцца. «Гэта наша зорка!» — захапляецца жанчына. І дадае: «Ён аб'ядноўвае людзей, яго словы — нашы словы».

**Працэс над Друэ адбудзецца не хутка — толькі ў лютым. Да гэтага часу Францыя моцна зменіцца. Прынамсі, спадзяванні ўлады на тое, што пасля Новага года рух пратэсту выдыхнецца, рэалізаваліся не напоўніцу**

Трэба прызнаць, што свой унёсак у народны энтузіязм наконт Эрыка Друэ зрабіла адміністрацыя Макрона. Яшчэ 22 снежня Друэ быў арыштаваны за заклік да несанкцыянаванай маніфестацыі. Хапун здарыўся падчас бойкі з паліцыяй. У арыштаванага пад вопраткай знайшлі дручок, які паліцыя адразу кваліфікавала як забароненую зброю. 2 студзеня адбыўся новы арышт за рэкламу іншай маніфестацыі, на якую таксама не было дазволу ўлады. Імідж ахвяры рэжыму дадаў кіроўцу новыя пункты народнай папулярнасці.

Да кампаніі салідарнасці з Друэ далучыліся і прадстаўнікі лагеру апазіцыйных палітыкаў. Марын Ле Пэн кажа пра «сістэматычнае парушэнне палітычных правоў французаў, прыкладам якога ёсць арышты Друэ». Яе намеснік заявіў, што пасля апошніх падзей афіцыйны Парыж не мае маральнага права крытыкаваць Пуціна за затрыманне Навальнага. Натуральна, тут адчуваецца спроба эксплуатаваць папулярны вобраз.

Гледзячы на лексіку спікераў Елісейскага палацу, працэс над Друэ павінен стаць паказальным. «Рэспубліка — не анархія. Той, хто парушае яе законы, павінен адчуць наступствы»,— пракаментаваў справу дзяржаўны сакратар. Брытанскае ВВС, у сваю чаргу, звяртае ўвагу на тое, што Макрон апошнім часам усё часцей намагаецца падзяліць пратэстны рух на звычайных французаў, патрабаванні якіх ён не супраць выканаць, і радыкалаў. Да апошняй катэгорыі маніфестантаў дзяржава, па яго словах, не павінна мець літасці.

Працэс над Друэ адбудзецца не хутка — толькі ў лютым. Да гэтага часу, гледзячы па ўсім, Францыя моцна зменіцца. Прынамсі, спадзяванні ўлады на тое, што пасля Новага года рух пратэсту выдыхнецца, рэалізаваліся не напоўніцу. Колькасць пратэстоўцаў сапраўды змяншаецца, аднак іх застаецца дастаткова шмат (каля 87 тысяч у мінулую суботу), а самі маніфестанты маральна ўсё часцей гатовыя на гвалтоўны супраціў. Пакуль формулы стабілізацыі сітуацыі ў краіне ўлада не мае.

Так ці інакш, палітычная будучыня кіроўцы з Мелюна пакуль выглядае больш перспектыўна, чым у прэзідэнта Макрона.

# Вярнуць Курылы курыльцам

Алег НОВІКАЎ

**Цяперашнія кансультацыі паміж Расіяй і Японіяй наконт лёсу Курылаў у чымсьці дзіўныя. Бакі забываюць пра тое, што гістарычна гэтыя астравы належаць народу айны.**


Фота www.meduza.io


Фота www.u-news24.com

Менавіта айны раней за рускіх і японцаў каланізавалі Курылы. Няма дакладнай даты, калі гэта адбылося. Але каля 300 гадоў да нашай эры айны засялялі ўвесь японскі архіпелаг, а таксама паўднёвую палову Сахаліна, Курыльскія астравы і Паўднёвую Камчатку.

Увогуле, з айнамі дасюль шмат незразумелага. У тым ліку таму, што яны абсалютна не падобныя на іншыя азіяцкія народы. У іх шырокія вочы, светлая скура. Характэрная рыса знешнасці айнаў — вельмі густыя валасы і барада ў мужчын. Густыя доўгія валасы, якія збіваліся ў каўтун, нават замянялі айнам-жаўнерам шаломы.

Рэлігія ў айнаў таксама была вельмі дзіўная. Іх культ мядзведзя моцна адрозніваўся ад падобных культаў на тэрыторыі Азіі. Толькі ў айнаў ахвярнага мядзведзя выкормлівалі грудзьмі жанчыны-карміцелькі.

Непадобнасць айнаў да суседзяў стала глебай для самых фантастычных тэорый. Паводле самай экстравагантнай, айны — гэта арыі. Нездарма ў іх мове ёсць санскрыцкія словы, а на пячатках выяўленая «свастыка». Праўда, існуе і іншая версія: айны — галіна палінезійцаў, і ніякага дачынення да арыяў яны не маюць. Што тычыцца свастыкі, то ў Японіі яна не арыйскага, а будысцкага паходжання.

Можна сустрэць версіі пра тое, што сама культура воіна-самурая была запазычаная японцамі ў айнаў. На карысць гэтай версіі — арсенал айнаў-жаўнераў, вельмі падобны да самурайскага. Акрамя таго, айны, якія жылі паляваннем, былі вельмі ваяўнічымі. Аж да таго, што жанчынам, каб мець права ваяваць, малявалі або рабілі татуіроўку вусоў. Таму пасунуць айнаў японцы здолелі выключна дзякуючы такому ноу-хау, як гарматы.

Гэта здарылася прыкладна ў XV стагоддзі. Пасля перамогі японцаў айнаў чакала татальная асіміляцыя, у тым ліку на Курылах. Сёння ў Японіі засталося прыкладна 20 тысяч айнаў, якія амаль не адрозніваюцца ад японцаў. Праўда, апошнім часам яны імкнуцца змагацца за свае правы. У 2004 годзе айны арганізавалі сваю партыю, якая адстойвае, паводле праграмы, мультыкультурны характар японскай дзяржавы. У 2007 годзе японскі ўрад афіцыйна прызнаў айнаў асобным народам.

Частка тэрыторыі айнаў трапіла ў склад Расійскай імперыі, дзе ім было забаронена называць сябе айнамі. Бо тады японцы заяўлялі, што ўсе рэгіёны, на якіх жылі ці жывуць айны, з'яўляюцца часткай Японіі. Таму айнаў вельмі часта называлі «курыльцы». У часы СССР людзі з айнскімі прозвішчамі высылаліся ў ГУЛАГ, паколькі іх лічылі японцамі. У выніку вялікая колькасць айнаў перайшла на славянскія прозвішчы. У 1961 годзе нарабіў вэрхалу апошні айн, які жыў на Сахаліне. Пахаваўшы жонку, ён проста на магілках зрабіў сабе харакіры. У 1979 годзе СССР выкрасліла этнонім «айны» са спісу «жывых» этнічных груп Расіі, тым самым абвясціўшы, што гэты народ на тэрыторыі СССР памёр...

лісце сцвярджалася, што гэтая трагедыя па маштабах можа быць параўнальная толькі з генацыдам карэннага насельніцтва Амерыкі. Аднак у Крамлі ліст праігнаравалі.

Па ходзе цяперашніх расійска-японскіх перамоваў ідэя вярнуць Курылы курыльцам зноў адрадзілася. На дапамогу айнам нечакана прыйшлі расійскія лібералы. 14 студзеня апазіцыйная партыя ПАРНАС вуснамі намесніка яе старшыні Андрэя Зубава прапанавала Крамлю перасяліць на Курылы японскіх айнаў. Аднак пры гэтым самі Курыльскія астравы павінны, паводле Зубава, застацца пад расійскім суверэнітэтам.

Прапанова ПАРНАСу свежая, аднак яе перспектывы вельмі неакрэсленыя. Не толькі

**Прапанова ПАРНАСу свежая, аднак яе перспектывы неакрэсленыя. Галоўная праблема ў тым, што з кожным днём усе цяперашнія размовы вакол Курылаў больш нагадваюць фінт крамлёўскіх піяршчыкаў, што мае на мэце адцягнуць увагу расіян ад сацыяльна-эканамічных цяжкасцяў**

Але, паводле апошняга перапісу насельніцтва Расіі, у 2010 годзе прыкладна сто чалавек, у большасці рэзідэнты Камчаткі, пазначылі сябе як айны. Менавіта ў гэтым асяроддзі паўстаў незвычайны праект. У 2004 годзе яны накіравалі Уладзіміру Пуціну ліст, у якім прапанавалі яму адрадзіць на Курылах айнскі этнічны анклаў. У такім разе Японія, маўляў, страціць права патрабаваць вяртання астравоў. А каб японцы ўвогуле супакоіліся, Пуціну прапаноўвалася прызнаць генацыд айнаў з боку Японіі. У

таму, што вяртанне айнаў на гістарычную радзіму надзвычай складана здзейсніць тэхнічна. Да таго ж японскія айны ў большасці наўрад ці пагодзяцца змяніць японскую мадэль спажывання на расійскі побыт. Не выклікае эйфарыі ідэя рэпатрыяцыі айнаў і ў рускіх, якія жывуць на астравах. Але галоўная праблема ў тым, што з кожным днём усе цяперашнія размовы вакол Курылаў больш нагадваюць фінт крамлёўскіх піяршчыкаў, што мае на мэце адцягнуць увагу расіян ад сацыяльна-эканамічных цяжкасцяў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Віталь Купрый



Дэпутат украінскай Вярхоўнай Рады, сябра партыі «Укроп», блізкай да апазіцыйнага алігарха Каламойскага, напэўна, будзе галоўным героем цяперашняй сесіі парламента, якая пачала працу 15 студзеня.

Купрый з'яўляецца аўтарам мегаскандальнага законапраекту. Сутнасць яго вельмі простая — абвясціць вайну Расійскай Федэрацыі. У дакуменце падрабязна тлумачыцца, што гэта павінна зрабіць выканаўчая ўлада ў рамках выканання адпаведнай пастановы Рады. Абвяшчэнне вайны ў тым ліку азначае разрыў дыпламатычных адносін з РФ, стварэнне Стаўкі Вярхоўнага галоўнакамандуючага і гэтак далей.

Ёсць у законапраекце Купрыя і вельмі цікавыя пункты. Напрыклад, забарона вайсковым караблям праходзіць Басфор або абвяшчэнне санкцый супраць грамадзян Украіны, якія маюць расійскае паходжанне, аж да забароны ім перасоўвацца рэйсавым транспартам.

Відавочна, што ў дакумента няшмат шанцаў быць падтрыманым у Радзе. Імплементацыя праекта азначае выхад Украіны з Мінскіх дамоваў — міжнароднага базавага дакумента для дасягнення міру ў Данбасе. У сувязі з гэтым не выключаючы, што прапанова Купрыя — тонкі тролінг Парашэнкі. Магчыма, Каламойскі за кошт законапраекту Купрыя намагаецца давесці фальшывы патрыятызм прапрэзідэнцкай парламенцкай большасці. Яшчэ адна версія — ідэя з абвяшчэннем вайны спатрэбілася Купрыю, каб зрабіць стартавы піяр для паходу ў прэзідэнты.

### Хуан Гуайдо



Венесуэльскі апазіцыянер, дэпутат Нацыянальнай асамблеі, якую чавісты абвясцілі нелегітымнай у 2017 годзе, зрабіў сабе паблісіці на ўвесь свет.

Для гэтага Гуайдо было дастаткова публічна заявіць пра жаданне заняць пасаду прэзідэнта краіны замест чавіста Нікаласа Мадуры, які 10 студзеня пайшоў на другі тэрмін. Мадура, на думку Гуайдо і яшчэ шмат каго, з'яўляецца нелегітымным прэзідэнтам, паколькі апошнія прэзідэнцкія выбары прайшлі са шматлікімі парушэннямі.

Цікавая рэакцыя ўлады на заяву Гуайдо. Спачатку Мадура, выступаючы на тэлебачанні, паспрабаваў жартаваць з яго заявы. Аднак у яго адміністрацыі, падаецца, вырашылі перастрахавацца. Спецслужбы аператыўна арыштавалі апазіцыйнага палітыка і схавалі ў невядомым месцы, каб праз пяць дзён вызваліць. Вызваленне апазіцыянера Мадура прыпісаў сабе. На яго думку, супрацоўнікі спецслужбаў былі карумпаваныя і вырашылі за кошт арышту дысідэнта падняць свой аўтарытэт у вачах улады.

Наўрад ці на гэтым прыгоды Гуайдо скончацца. ЗША лічаць Нацыянальную Асамблею адзіным легітымным органам у Венесуэле і, гледзячы па ўсім, будуць дамагацца ад Каракаса вяртання органу былых паўнамоцтваў. Пры такім сцэнары Гуайдо сапраўды можа аспрэчыць у Мадуры пасаду кіраўніка дзяржавы.

### Павел Адамовіч



Мэр Гданьску з 1998 года, прыхільнік апазіцыйнай партыі «Грамадзянская платформа» (PO) стаў ахвярай смяротнага нападу падчас вулічнага канцэрту. Забойца нанёс яму некалькі ўдараў нажом у сэрца і жывот ды паспеў крыкнуць: «Я сядзеў нявінна ў турме, "Грамадзянская платформа" катавала мяне, таму Адамовіч памёр».

Забойства Адамовіча, на думку палітолагаў, акрамя шоку можа выклікаць тэктанічныя трансфармацыі ў польскай палітыцы. У грамадстве набірае папулярнасць думка, што забойства мела палітычны падтэкст. Забойца, маўляў, быў ахвярай прапагандысцкай кампаніі, якую цяперашні кансерватыўны ўрад партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) даўно праводзіў супраць лібералаў.

Адной з мішэняў кампаніі быў Адамовіч, якога ва ўрадавых медыя ледзь не адкрытым тэкстам называлі лабістам нямецкіх і расійскіх інтарэсаў, аматарам вычварэнцаў (Адамовіч арганізаваў у горадзе гей-прайд) і гэтак далей. Яшчэ далей ішлі правыя радыкалы, якія на сваіх інтэрнэт-форумах вынеслі гданьскаму бургамістру смяротны прысуд.

Смерць Адамовіча прымусіла шматлікіх палякаў больш крытычна ставіцца да PiS, што можа адбіцца на выніках хуткіх парламенцкіх выбараў.

18 студзеня 2019 | № 2 (613) Новы Час

# Хто стаяў ля вытокаў БССР?

Юрый ГЛУШАКОЎ

**Стварэнне Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь было абвешчана 100 гадоў таму. Насуперак папулярнаму міфу, гэта быў не толькі бальшавіцкі праект.**

## Народнікі за самавызначэнне народаў

Задоўга да з'яўлення марксістаў за правы народаў Расійскай імперыі на самавызначэнне выступілі рэвалюцыйныя народнікі. Менавіта яны стварылі першую палітычную партыю ў Беларусі — Беларускую сацыял-рэвалюцыйную партыю. Яе лідар Ігнат Грынявіцкі пакараў смерцю 1 сакавіка 1881 года цара Аляксандра II (як бы зараз сказалі, здзейсніў тэракт).

Гэтую эстафету ў пачатку XX стагоддзя прыняла новая партыя — Беларуская сацыялістычная Грамада. БСГ таксама шмат у чым стаяла на народніцкіх пазіцыях «сацыялізму суполак». Тэарэтыкі агульнарасійскай партыі эсэраў актыўна распрацоўвалі канцэпцыю федэрацыі ўсіх народаў былой Расійскай імперыі. Але правы эсэр Аляксандр Керанскі, які ўзначаліў Часовы ўрад, нічога не зрабіў для нацыянальных інтарэсаў беларускага народа.

У верасні 1917 года лідар бальшавікоў Уладзімір Ленін заявіў аб праве Беларусі на самавызначэнне. На маю думку, шмат у чым правадыра РСДРП(б) да гэтага падштурхнула актыўнасць беларускай Грамады ў Петраградзе, дзе было шмат працоўных і матросаў з Беларусі. І дзейнасць беларускага сацыяліста Яўсея Канчара, які неаднаразова сустракаўся ў Леніным і лідарамі партыі эсэраў. З БСГ у гэты час вылучылася левае крыло на чале з Аляксандрам Чарвяковым і Зміцерам Жылуновічам. Фактычна, самастойную партыю ўтварылі і левыя сацыялісты-рэвалюцыянеры.

Левыя эсэры ўваходзілі ў кіраўніцтва беларускімі фракцыямі ў шэраг усерасійскіх структур, створаных паміж лютым і кастрычнікам 1917 года. Так, Васіль Селіванаў і Яўсей Канчар узначальвалі Беларускую групу ва Усерасійскім Савеце рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Канчар, левы эсэр Караткевіч і бальшавік Фрунзэ каардынавалі Беларускую групу Усерасійскага Савета сялянскіх дэпутатаў.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі пазіцыі левых эсэраў узмацніліся. Левыя сацыялісты-рэвалюцыянеры ўзначалілі Беларускі абласны камітэт (БАК) пры Усерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў, у які ўвайшлі Васіль Селіванаў, Яўсей Канчар, Караткевіч і Гольман. Яўсей Канчар і матрос Раман Канчар уваходзілі таксама ў кіраўніцтва Беларускага Савета па фармаванні вайсковых частак, штаб якіх знаходзіўся ў Петраградзе на вуліцы Разначыннай. Па словах Канчара, да моманту анулявання Брэсцкага міру ў лістападзе 1918 года ім было сфармавана 2 беларускія палкі Чырвонай Арміі ў Петраградзе і 3 палкі — на тэрыторыі Беларусі, колькасцю каля 2 тысяч чалавек кожны.

БАК выступіў ініцыятарам правядзення Усебеларускага з'езда ў снежні 1917 года. Дэлегатамі з'езда былі прадстаўнікі сялянскіх Саветаў з усёй Беларусі. Аднак выканкам Савета Заходняга фронту і вобласці («Аблвыкамзах»), баючыся страты ўлады, самавольна разагнаў з'езд, які праходзіў з санкцыі Саўнаркама і Наркамата па справах нацыянальнасцяў.




Але беларускі нацыянальна-рэвалюцыйны рух нарастаў, і гэта патрабавала ад Саўнаркама нейкага канструктыўнага рашэння. Не ў меншай меры да гэтага падштурхоўвала і ваенна-палітычная сітуацыя ў Беларусі.

## Левы сектар

Пасля паразы ў Першай сусветнай вайне і Лістападаўскай рэвалюцыі ў Германіі нямецкія войскі сталі пакідаць Беларусь. Чырвоная Армія займала беларускія гарады і мястэчкі. З другога боку на тэрыторыю Беларусі пачалі ўступаць польскія войскі. У Варшаве яшчэ не было адзінага погляду на далейшы лёс Беларусі, але яе бачылі выключна ў межах Польшчы. Польскія правыя «нарадоўцы» наўпрост казалі пра інкарпарацыю ўсёй Беларусі ў склад Рэчы Паспалітай узору 1772 года. А былы сацыяліст Юзэф Пілсудскі заляцаўся да ўмеранай часткі дзеячаў БНР, абяцаючы ў будучыні польска-беларускую федэрацыю «роўных». Адначасова літоўскі ўрад, прызнаны Германіяй, аб'явіў Гродзенскую губерню сваёй тэрыторыяй.

Пагроза новай акупацыі, страта доўгачаканага шанцу на нацыянальнае самавызначэнне падштурхнулі беларускіх камуністаў і рэвалюцыйных сацыялістаў, Беларускі нацыянальны камітэт і Беларускі камісарыят Наркамнацу да патрабаванняў неадкладнага вырашэння беларускага пытання. Беларускі камісарыят узначальваў, дарэчы, левы эсэр Мікалай Семяновіч.

У партыі бальшавікоў 3 ліпеня 1918 года былі ўтвораны Беларускія секцыі РКП(б). Іх аснову склалі былыя чальцы Грамады на чале са Зміцерам Жылуновічам і Аляксандрам Чарвяковым. Менш вядома, што такія ж беларускія секцыі былі ўтвораныя пры другой кіруючай савецкай партыі — партыі левых сацыялістаў-рэвалюцыянераў (ПЛСР).

Па словах Канчара, левыя эсэры стварылі свае беларускія партыйныя арганізацыі значна раней за бальшавікоў — яшчэ 22 лістапада 1917 года. Кіравалі гэтымі беларускімі секцыямі ў Піцеры левыя эсэры — Лагун-старэйшы, Пятровіч, Чаадовіч і Семяновіч. Агульнапартыйныя ж беларускія секцыі ПЛСР былі створаныя 26 мая 1918 года з чальцоў УЦВК, Белнацкама, Галоўнага Зямельнага камітэта і дэлегатаў з акупаванай і неакупаванай Беларусі. Сярод арганізатараў беларускіх секцый ПЛСР былі матрос Павел Шышко і ўжо згаданы Мікалай Семяновіч.

У канцы чэрвеня 1918 года ў Маскве адкрыўся III з'езд партыі левых эсэраў, сярод яго дэлегатаў-беларусаў быў паэт Фабіян Шантыр, які адначасова з'яўляўся адным з лідараў толькі што ўтворанай Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Ён нарадзіўся ў Слуцку, у сям'і мастака. Па прафесіі — настаўнік. Прымаў удзел у рэвалюцыі 1905 года, у 1907 годзе быў асуджаны царскім судом. У 1909 годзе друкаваўся ў «Нашай Ніве». У 1917 годзе адначасова ўдзельнічаў у працы БСГ і левых эсэраў. У снежні 1917-га быў сярод дэлегатаў Усебеларускага з'езда. Муж вядомай беларускай дзеячкі Зоські Верас (Людвіга Савіцкая-Войцек).

Фабіян Шантыр заклікаў партыю левых эсэраў да правядзення беспартыйнага з'езда беларускага сялянства і перадачы ўлады ў Беларусі Савету беларускага сялянства. Але, па словах Шантыра, бальшавікі «бязлітасным чынам паралізавалі» ўсе спробы да гэтага, спасылаючыся на Брэсцкі мір.

Неўзабаве пасля гэтага 6 ліпеня 1918 года ЦК левых эсэраў паспрабаваў сарваць Брэсцкі мір замахам на нямецкага амбасадара Мірбаха, спадзеючыся такім чынам вызваліць Беларусь і Украіну і распаліць «сусветную рэвалюцыю». Але ў выніку сама партыя левых эсэраў была абвешчаная па-за законам. Магілёўскі губернскі камітэт ПЛСР адмовіўся падтрымаць «авантуру» свайго ЦК. Але ўсё роўна на левых эсэраў у неакупаванай частцы Беларусі абрынуліся рэпрэсіі. У прыватнасці, былі арыштаваныя Фабіян Шантыр, Васіль Селіванаў і многія іншыя, у Віцебску некалькі чалавек былі расстраляныя. Такім чынам, радыкальныя левыя эсэры часова выбылі з барацьбы за Беларусь.

Беларускія секцыі РКП(б) працягвалі настойваць на стварэнні незалежнай савецкай Беларусі. І ў канчатковым выніку Жылуновіч і Чарвякоў дамагліся свайго. На канферэнцыі Беларускіх камуністычных секцый 21–23 снежня 1918 года ў Маскве было прынята рашэнне пра ўтварэнне «рабоча-сялянскага ўрада Беларусі». ЦК РКП (б) узгадніў гэтую пастанову.

А вось кіраўніцтва Заходняй вобласці, што ў асноўным складалася з былога «Аблвыкамзаху», катэгарычна супраціўлялася стварэнню Беларускай Савецкай Рэспублікі. Аднак пры адмове ад задавальнення патрабаванняў беларусаў бальшавікам пагражала страта даверу ў нашым краі. І наркаму па справах нацыянальнасцяў Іосіфу Сталіну давялося ў канцы снежня 1918 года выклікаць да сябе ў Маскву кіраўнікоў Заходняй вобласці. Магчыма, каб ва ўласцівай манеры патлумачыць упартым «абласнікам» такім прыкладна чынам: «А калі таварыш Мяснікян не пагодзіцца з рашэннем ЦК па беларускім пытанні, нам прыйдзецца прымаць рашэнне па самім таварышу Мяснікяну». Дарэчы, Сталін добра ведаў Яўсея Канчара па каўказскай ссылцы.

Часовы рабоча-сялянскі ўрад Беларусі быў сфармаваны ў Смаленску 30–31 снежня 1918 года на з'ездзе толькі што створанай Камуністычнай партыі Беларусі (бальшавікоў). «Часовым» ён называўся таму, што яго што павінен быў зацвердзіць «поўнаўладны орган — з'езд Саветаў Беларусі. 1 студзеня 1919 года быў абвешчаны «Маніфест» урада аб стварэнні ССРБ.

## Восем беларускіх камісараў

У распрацоўцы плана стварэння ССРБ удзельнічалі, акрамя Сталіна, Жылуновіча, Чарвякова і іншых камуністаў, і левыя эсэры — Селіванаў, Чаадовіч, Семяновіч і іншыя.

Зразумела, пасля ліпеньскага «паўстання» месца для гэтых «рэвалюцыйных рамантыкаў» у Часовым працоўным сялянскім урадзе ССРБ не знайшлося. Сталін асабіста ўзгадніў асобы будучых народных камісараў савецкай Беларусі. Але ў пэўным сэнсе склад першага ўраду БССР усё роўна атрымаўся «шматпартыйным». Вось што пісаў з гэтай нагоды Яўсей Канчар: «Урад новай рэспублікі не выклікаў надзеі, таму што ён быў складзены на кааліцыйнай аснове. Часткова з нацыянал-беларусаў (Жылуновіч, Чарвякоў, Лагун), часткова — з інтэр-дэмакратаў трацкісцкага кшталту (Мяснікоў, Рэйнгольд, Алібегаў, Ландэр, Іваноў). Гэта былі дзве розныя ідэалогіі, хоць яны ўваходзілі ў адну партыю».

У рабоча-сялянскім урадзе Беларусі было 17 чальцоў. 7 месяцаў былі аддадзены чаль-

**У кароткі час, адведзены на працу першага ўрада, шмат чаго зрабіць ён проста не мог. Але львіная доля выдаткаў беларускага ўрада была сацыяльнай — 13 мільёнаў рублёў на харчаванне, 5 мільёнаў — камісарыяту сацзабеспячэння, мільён рублёў — на навучальныя дапаможнікі**

цам Беларускіх секцый РКП, у большасці сваёй — нядаўнім дзеячам беларускай Грамады. Усевалад Фальскі стаў наркамам па замежных справах — ССРБ мела права знешніх зносін! Аляксандр Чарвякоў узначаліў народную адукацыю, камісарыят працы — Язэп Дыла, сацыяльную абарону — Дзмітрый Чарнушэвіч. Партфель наркама юстыцыі атрымаў Аляксандр Квачанюк. А вось камісарам па нацыянальных справах стаў той самы левы эсэр Фабіян Шантыр. Праўда, пасля адсідкі ў Бабруйскай крэпасці ён таксама ўступіў у Беларускія секцыі РКП(б).

Узначаліў першы ўрад ССРБ Зміцер Жылуновіч, у той час ужо камуніст, але яшчэ нядаўна — адзін з лідараў Беларускай сацыялістычнай Грамады.

У кароткі час, адведзены на працу першага ўрада, шмат чаго зрабіць ён проста не мог. Але львіная доля выдаткаў сацыялістычнага беларускага ўрада была сацыяльнай — 13 мільёнаў рублёў на закупку харчавання, 5 мільёнаў — камісарыяту сацыяльнага забеспячэння на пайкі, 1 мільён рублёў — камісарыяту Чарвякова на навучальныя дапаможнікі, у тым ліку і на беларускай мове.

Аднак ужо 2–3 лютага 1919 года ў сувязі з утварэннем Літоўска-Беларускай Савецкай Рэспублікі, уласна беларускія тэрыторыі ў ЛітБел былі зрэзаныя з пяці губерняў да дзвюх. Дарэчы, супраць такой несправядлівасці выступілі як беларускія камуністы на чале з Жылуновічам, так і нават «абласнікі» Мяснікяна–Кнорына.

Існуюць розныя версіі, чаму ЦК бальшавікоў пайшло на стварэнне ЛітБел. У прынцыпе, ідэя «Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага» з 1916 года выказваліся і дзеячамі БСГ. З праектамі аб'яднання Беларусі і Літвы выступаў і Язэп Варонка, першы прэм'ер-міністр БНР. Але, што тычыцца ЛітБел, то той жа Яўсей Канчар ацэньваў яе адмоўна — як праяву «літоўскага вялікадзяржаўнага шавінізму».

Усе сем народных камісараў з Беларускіх секцый РКП (б) выступілі супраць скарачэння тэрыторыі Беларусі. Да беларускіх камуністаў далучыўся і наркам па справах палонных і бежанцаў Рыгор Найдзенка, ураджэнец Смаленска.

Ужо неўзабаве шматлікія наркамы БССР — нядаўнія грамадоўцы — былі арыштаваныя. Супраць Усевалада Фальскага, Язэпа Дылы, Фабіяна Шантыра былі вылучаныя абвінавачванні ледзь не ў «контррэвалюцыі». Вось што казала з гэтай нагоды лідар Беларускай партыі эсэраў і міністр БНР Палута Бадунова на перамовах з савецкім урадам напярэдадні аднаўлення БССР-2 у 1920 годзе: «Гісторыя Савецкай улады ў Беларусі пачалася вялікім актам сацыяльнага і нацыянальнага разняволення беларускага працоўнага народа. З аднаго боку, была абвешчаная ўлада Саветаў, з другога — незалежнасць БССР. Савецкую ўладу горача віталі беларускае працоўнае сялянства і рабочыя, а з імі разам — і Беларуская партыя эсэраў. Было вядома ў першы час, што на чале Са-



**Праект Герба БССР 1924 года з бел-чырвона-белай палоскай. Мастак Г. Змудзінскі**

вецкай Беларусі беларускі па духу ўрад — Беларускі народны камісарыят, вакол якога адзіна маглі б згуртавацца левыя сацыялістычныя сілы».

Так, шанец на аб'яднанне вакол урада Жылуновіча беларускіх камуністаў, эсэраў, іншых сацыялістычных партый і шырокіх слаёў насельніцтва быў страчаны. Магчыма, гэта дазволіла б яшчэ ў 1919 годзе больш эфектыўна супрацьстаяць інтэрвентам і не дапусціць акупацыі Беларусі?

«Чым жа і як адказала Савецкая ўлада на ўсе гэтыя самыя натуральныя запыты? — працягвае Палута Бадунова. — Першым памылковым палітычным актам быў арышт беларускіх работнікаў Камісарыята, якія былі тут жа ў Мінску пасаджаныя ў турму. Хаця тыя абвінавачванні, якія

**Неўзабаве шматлікія наркамы БССР — нядаўнія грамадоўцы — былі арыштаваныя. Супраць Усевалада Фальскага, Язэпа Дылы, Фабіяна Шантыра былі вылучаныя абвінавачванні ледзь не ў «контррэвалюцыі». Абвінавачванні, відавочна, былі правакацыйнага характару**

ўзводзіліся на іх, відавочна, былі правакацыйнага характару, калі і да гэтага часу ўсе члены першага беларускага ўраду — і цяпер працуюць адкрыта ў камуністычнай партыі і ніхто не знайшоў у іх ніякай віны перад пралетарыятам».

Але гэта не зусім так. Наркам Рыгор Найдзенка стаў першым з расстраляных камісараў БССР ужо ў маі 1919 года. Трыбунал у Мінску прысудзіў яго да вышэйшай меры па відавочна сфальсіфікаваным абвінавачванні ў злоўжыванні службовым становішчам і «прыпісцы партыйнага стажу» (!). Пасля вынясення смяротнага прысуду беларускі наркам заспяваў «Інтэрнацыянал».

Наступнага беларускага наркама пакаралі смерцю ўжо палякі. У красавіку 1919 года былы наркам па дзяржаўным кантролі Станіслаў Берсан трапіў у палон і быў па-зверску забіты легіянерамі.

Потым прыйшла чарга Фабіяна Шантыра. У 1920 годзе ён яшчэ ўваходзіў у Беларускую рэдакцыйную калегію ЦК Кампартыі Літвы і Беларусі. Прызваны зноў у Чырвоную Армію, служыў у 16-й арміі на Заходнім фронце. Быў абвінавачаны, відавочна хлусліва, у згвалтаванні, і расстраляны ў красавіку 1920 года. Хто стаяў за гэтымі актамі? Хутчэй за ўсё, вялікадзяржаўнасць, кепска прыкрытая «рэвалюцыйнымі» лозунгамі, спалучалася тут з банальным ахаронствам і канкурэнтнай барацьбой.

Зміцер Жылуновіч і Аляксандр Чарвякоў, як і многія іншыя, сталі ахвярамі страшнага 1937 года. З беларусаў-камуністаў, народных камісараў першага ўрада БССР, чый лёс вядомы, рэпрэсіі перажыў толькі Язэп Дыла, які памёр у 1973-м. Пра тое, як скончылася жыццё яшчэ дваіх наркамаў з Белсекцый, — на сённяшні дзень звестак няма. Ацалеў у гады «вялікага тэрору» і Яўсей Канчар, які займаўся ўсе наступныя гады навуковай працай.

Але ўсё ж менавіта беларускія камуністы — нядаўнія сябры Грамады, і беларускія левыя эсэры сталі ініцыятарамі і галоўнай палітычнай сілай, якая пралабіравала стварэнне БССР. І праз шмат гадоў гісторыя пацвердзіла — беларускія сацыялісты змагаліся і гінулі за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне свайго народа не дарма.

# Федэрацыйны пакт паміж Мінскам і Масквой

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ

**Францыя — адна з вялікіх дзяржаваў Еўропы і свету сто гадоў — таму мала цікавілася Беларуссю, якую бачыла ў зоне інтарэсаў царскай, а потым і савецкай Расіі. Аднак сто гадоў таму ў французскім парламенце пад уплывам сацыялістаў усё ж такі паўставалі дэбаты і пытанні аб Беларусі.**

Пра гэта сведчыць газетны летапіс французскай парламенцкай прэсы. «L'Economiste parlementaire» (Парламенцкі эканаміст) за 4 сакавіка 1920 года размясціў цэлае дасье, прысвечанае беларускаму пытанню. І хоць французская прэса праігнаравала і не прызнала абвяшчэнне БНР, яшчэ халадней яна паставілася да навіны аб абвяшчэнні аўтаноміі БССР.

Шчыра кажучы, французскія газеты зусім абышлі гэтую навіну, з вялікім спазненнем пазначыўшы факт «федэрацыйнага пакту» паміж Мінскам і Масквой. Вялікай навіны ў гэтым не знайшоў і «L'Economiste parlementaire», які пазначыў у сваім дасье, што 1 студзеня 1919 года БССР была навязаная воля і рашэнне Масквы, якая скасавала ўсе папярэднія незалежніцкія памкненні Рады БНР. У далейшым ніхто ў Еўропе ўсур'ёз



**Максанс Ральдэс**

не ўспрымаў БССР. Гэта яшчэ раз падкрэслівае цяперашнія штучнасць і неабгрунтаванасць святкавання стагоддзя БССР як рэальнай беларускай дзяржаўнасці.

Так, Максанс Ральдэс, сацыяліст, эканаміст, рэдактар парламенцкага часопіса «L'Economiste parlementaire» у прадмове да нумару 4.03.1920 года, якую тытулаваў «Права нацыянальнасцяў», смела пазначыў, што Еўропа і Францыя перадусім забылі пра шчодрую традыцыю міжнароднага права і Дэкларацыю правоў чалавека, якія абвяшчалі ўсім нацыянальнасцям права на незалежнасць і свабоду. Гэтае права забытае і падкупленае імперыялістамі ўсіх кшталтаў. Гэтага права чамусьці пазбавілі беларусаў. У беларускім пытанні, адзначыў рэдактар, няма прагрэсу, бо французскія імперыялісты ўвайшлі ў змову з польскімі імперыялістамі, а таму французскія неабазнаныя і палонафільскія высокія чыны сцвярджаюць: «Ніякай Беларусі няма».

Цікава, што такая амаль прафетычная заўвага французскага рэдактара стане актуальнай на самым пачатку 90-х XX стагоддзя, калі гэтым разам Францыя Мітэрана зноў будзе ў ступары і сумнявацца, ці прызнаць незалежнасць Беларусі, бо ў палітычных элітах дамінавала тая ж думка — ніякай Беларусі няма. Частка французскай лявіцы сто гадоў таму даводзіла іншае і спрабавала досыць рацыянальна, эканамічна выбудоўваць адносіны з Беларуссю. Акрамя аргументу дэмакратыі і права кожнай нацыі на незалежнасць у французскіх сацыялістаў гучаў аргумент эканамічных інтарэсаў у Беларусі, у рэгіёне.

Іншы журналіст часопіса Эдуар Коз, які падрыхтаваў аналітычнае дасье аб Беларусі, пачаў з таго, што здзівіўся, чаму на мапах, выдадзеных у Францыі, няма Беларусі, а вось на мапах, якія прадаюцца ў Ангельшчыне, з 1919 года Беларусь пазначаная як «новая краіна». Зноў у гэтым усім заўважаецца польскі і расійскі след: расійскі і польскі імперыялізм не прызнаюць Беларусь, а Францыя сляпа верыць Варшаве і Маскве. За выняткам геаграфічнай памылкі (аўтар дадаў да беларускіх гарадоў Коўна, Кіеў і Львоў), дасье «La Russie Blanche» уяўляе цікавы аналітычны дакумент, узбагачаны гістарычнымі тлумачэннямі, нетыповым, нестэрэатыпным бачаннем краіны і смелай крытыкай у бок палякаў, расіян і немцаў, якія, на думку аўтара, не адважыліся падтрымаць маладую беларускую незалежнасць.

Артыкул Эдуара Коза завяршаецца на прагматычнай ноце — зваротам да французскіх дэпутатаў, міністэрстваў не ігнараваць 12-мільённы еўрапейскі беларускі народ, з якім да ўсяго можна выгадна супрацоўнічаць эканамічна. Зрэшты, і Максанс Ральдэс, і Эдуар Коз шкадуюць, што праз эканамічную і дыпламатычную недальнабачнасць Францыя Пуанкарэ не адгукнулася і не прызнала незалежнасць Беларусі.



SIXIÈME ANNÉE — 4 MARS 1920

L'Economiste Parlementaire

Paraissant le Jeudi

Directeur Maxence ROLDES

LE DROIT DES NATIONALITÉS

A considérer la tournure que prennent les événements, les décisions si imprudentes, si grosses de graves conséquences, arrêtées par le Conseil des Alliés, il est permis d'avancer que si le traité de paix était, à l'heure présente, soumis à l'examen du Parlement il rencontrerait une sérieuse opposition.

C'est que chaque semaine presque apporte ici sa déception, accuse un écart grandissant entre les réalisations et les principes affirmés solenellement par les Alliés aux jours des dures et tragiques épreuves.

Nulle idée ne fut plus ardemment acclamée que celle du droit des nationalités à la plénitude de l'indépendance et de la liberté. C'est, avec la volonté d'en finir pour toujours avec la guerre, d'assurer au monde la paix définitive, la certitude que la défaite, l'écrasement du germanisme agresseur serait suivie de la libération de toutes les Alsace-Lorraine, de l'affranchissement de toutes les nationalités opprimées qui constitua le plus sûr, le plus puissant réconfort moral des masses mobilisées.

Il ne pouvait qu'en être ainsi dans le pays où l'esprit de solidarité internationale s'épanouit si magnifiquement, se fixa pour l'histoire, en actes impérissables.

Pourquoi faut-il qu'aujourd'hui, dans ce remaniement général des frontières, dans cette tumultueuse fermentation d'aspirations nationales ceux qui nous gouvernent s'écartent si souvent de la vivante et généreuse tradition de justice internationale dont s'honore le pays de la Déclaration des Droits de l'Homme et du Citoyen ?

En veut-on un exemple entre vingt ?

Voici la Russie Blanche (1) un grand pays de plus de 12 millions d'habitants qui, en dépit d'un asservissement séculaire tantôt à la Pologne, tantôt à la Russie, n'en a pas moins conservé jalousement ses institutions propres, sa langue, son caractère ethnique particuliers. Avec l'ébranlement mondial de la guerre, la dislocation de l'empire des tsars, ces populations de Russie Blanche, ces Ruthènes clament leur indéfectible volonté de conquérir leur autonomie, d'être désormais les maîtres de leurs destinées nationales. Toutefois, et cela facilite singulièrement pour les Alliés la solution du problème, les blancs-russiens — une suffisante autonomie leur étant garantie — envisagent favorablement l'éventualité de constituer avec les nations voisines un vaste organisme fédératif.

Or, bien qu'ils aient constitué un gouvernement, que ses représentants se soient abouchés avec les membres du Conseil des Alliés, qu'ils aient nettement établi la légitimité de leurs aspirations, on les a jusqu'ici écoutés d'une oreille distraite ou prévenue et les mois succèdent aux mois sans qu'aucune proposition ferme soit formulée à leur égard.

(1) Voir dans l'Economiste Parlementaire du 19 février la première partie d'un intéressant exposé de notre distingué collaborateur M. Ed. Cruez : la seconde partie sera publiée dans notre prochain numéro.

Est-ce que d'aventure, pour ceux qui décident en notre nom, le droit des nationalités serait un droit intermittent, un droit à éclipse ? Est-ce que ces hommes qui, depuis les jours lointains de l'armistice, ont multiplié les témoignages de leur manque d'idées directrices, de leur incompréhension, de leur imprévoyance, tiennent à établir qu'ils n'ont pas dans cette direction, donné toute leur mesure ? On serait tenté de le croire.

On raconte — mais ce sont gens mal informés — que les hauts personnages du quai d'Orsay, fâcheusement enclins à servir les desseins de l'impérialisme polonais, disent volontiers : « La Russie-Blanche » ça n'existe pas. »

C'est sans doute sous la suggestion de cette formule qu'on a laissé sans réponse l'offre faite par la délégation blanc-russienne de faire s'aboucher les délégués des coopératives de Russie-Blanche avec nos départements du commerce, du ravitaillement ou nos industriels et commerçants, qu'on laisse se morfondre dans les antichambres de nos ministères les représentants d'un pays qui n'a cessé de multiplier les preuves de sa profonde sympathie, de son attachement pour la France.

La Russie-Blanche, en effet, dès qu'elle a pu se faire entendre, a, par ses représentants les plus qualifiés, déclaré que pour l'utilisation, la mise en valeur de ses richesses naturelles, de ses immenses forêts, de sa production linière, de ses pelleteries, etc., elle était prête à accorder un régime de préférence à la Belgique et à la France. Sommes-nous donc, pour la reconstitution de nos régions dévastées, pour la reprise de notre activité industrielle, si largement approvisionnés et à si bon marché — dollar à 14 francs ; livre sterling à 48 — que nous puissions ne pas saisir avec empressement pareille offre d'un pays à change favorable ?

Faut-il rappeler ici que d'autres, ennemis d'hier ou alliés, mettant habilement à profit nos maladresses et nos fautes s'appliquent méthodiquement et avec succès à une politique réaliste qui fait un singulier contraste avec notre verbalisme creux, notre débilité, notre veulerie?

Si ardentes que soient leurs sympathies pour nous, les jeunes nations qui, en Orient, surgissent à la vie ne peuvent pas ne pas observer avec quelle fermeté, quelle vigueur l'Angleterre, par exemple, s'est employée en faveur des pays où se nationaux avaient obtenu une situation économique privilégiée. Lettonie, Esthonie, Lithuanie, républiques caucasiennes, pour ne citer que ces pays, où nos voisins d'outre-Manche ont, avec l'aide de leur gouvernement, obtenu contrats avantageux, importantes concessions, ont vu sans difficulté reconnaître leur indépendance par le Conseil des Alliés, France comprise.

Faudra-t-il, pour la Russie-Blanche, envisager cette même éventualité ?

On le voit, la période d'indécision, d'atermoiements, de réponses évasives et dilatoires a trop duré. Il importe que des explications soient d'urgence demandées au gouvernement, que nous sachions enfin nettement quelle est, à l'égard de la Russie-Blanche et de ses revendications, l'attitude qu'il entend adopter.

Maxence Roldes.

# БагатаДата

**Вы ведаеце, калі адзначаецца Міжнародны дзень абдымкаў? А калі адкрыўся Дзяржаўны мастацкі музей? Мы вырашылі знаёміць вас з найбольш цікавымі каляндарнымі падзеямі.**

## 19 студзеня

**Вадохрышча** — апошняе свята каляднага цыклу ў праваслаўных вернікаў, звязанае з хрышчэннем Ісуса Хрыста ў рацэ Іардан.

Некаторыя акунаюцца ў гэты дзень у палонку. Святары гэта не вельмі ўхваляюць, параўноўваюць з варажбой і клічуць у царкву на набажэнства, споведзь і асвячэнне вады, каб потым ужываць яе як цудадзейную ўвесь год.

**Дзень ратавальніка** — прафесійнае свята супрацоўнікаў Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. 20 гадоў таму — 19 студзеня 1999 года — было зацверджана Палажэнне аб МНС.

**Таццяне Мархель**, адной з самых знакамітых актрыс Беларусі, — 80 гадоў.

Народная артыстка нарадзілася ў вёсцы Шпакоўшчына Смалявіцкага раёна. Да 16 гадоў яе ўсе называлі Тамарай, хаця



запісалі ў сельсавеце Таццянай. У вёсцы жыла нейкая Таня, якую ўсе не любілі: і бацькі спалохаліся, што дачку будуць дражніць, ды перапісалі яе ў Тому.

У маладосці Таццяна Мархель працавала медсястрой, паступіла ў медуніверсітэт, але кінула навучанне дзеля тэатральна-мастацкага інстытута. Таццяна Мархель прызнавалася, што была закаханая ў пісьменніка Васіля Быкава. Яе другім мужам быў народны артыст Яўген Шыпіла, яны разам працавалі ў тэатры імя Якуба Коласа ў Віцебску. Пасля разводу Таццяна Мархель пераехала ў Мінск, гадавала дзвюх дачок.

Таццяну Мархель дагэтуль можна пабачыць на сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Спектаклі: «Беларусь. Дыдактыка», «Любоў людзей», «Мудрамер», «Тры Жызэлі», «Чарнобыльская малітва».

## 20 студзеня

**100 гадоў з дня заснавання Нацыянальнага гістарычнага музея**, які цяпер месціцца ў



Мінску на Карла Маркса, у будынку з гарматай на ўваходзе.

У 1919 годзе ён распачаў працу як Мінскі абласны музей у будынку былога Дваранскага сходу на рагу Маркса і Энгельса (гэты дом не захаваўся). Першымі экспанатамі сталі рэчы, канфіскаваныя бальшавікамі ў заможных гараджан і забраныя са шляхецкіх маёнткаў.

135 гадоў таму ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна нарадзіўся **Аляксандр Сянкевіч**, настаўнік, лекар і дзяржаўны дзеяч БССР. Адзін з арганізатараў на радзіме ў 1906 годзе нелегальнага настаўніцкага з'езда, што быў разагнаны паліцыяй. Сянкевіча разам з земляком Якубам Коласам ды Янкам Маўрам звольнілі. Памятаеце ў трылогіі «На ростанях» Алеся Садовіча? Прататыпам персанажа быў Сянкевіч. А ў рамане Фадзеева «Разгром» ён стаў правобразам доктара Сташынскага.

Пасля з'езда Сянкевіч эміграваў у ЗША, дзе працаваў у металургіі і дрэваапрацоўцы. Скончыў медыцынскі факультэт Мэрылендскага ўніверсітэта ў Балтыморы. Гэтая адукацыя па вяртанні дазволілі яму стаць у 1921 годзе наркамам аховы здароўя ў БССР. Быў рэктарам Камуністычнага ўніверсітэта Беларусі, працаваў у ЦК КПБ і ЦВК БССР. У 1938 годзе арыштаваны і расстраляны.

## 21 студзеня

**Міжнародны дзень абдымкаў**. Паводле адной з версій, свята прыдумалі амерыканскія студэнты. Паводле іншай, хлопец Хуан чакаў у сіднейскім аэрапорце: ён самотна глядзеў на людзей, што абдымаліся пры сустрэчы, а потым напісаў на кардоны: «Абдыму задарма».

85 гадоў таму нарадзіўся архітэктар **Алег Стаховіч**. Яго праекты разам з іншым аўтарамі — Курган Славы, галоўны ўваход у выглядзе зоркі ў мемарыяльны комплекс «Брэсцкая крэпасць-герой».

## 22 студзеня

75 гадоў таму загінуў падлетак-партызан з вёскі Байкі Пружанскага раёна **Ціхан Баран**. У гэты дзень немцы абкружылі




Фота www.hugsarenice.com

вёску, спалілі амаль тысячу яе жыхароў, а схопленаму Ціхану загадалі адвесці іх да партызанскага атрада. Але 11-гадовы юнак скіраваў ворагаў у балота. Хлопца застрэлілі, але з 200 акупантаў уратаваўся толькі адзін.

**5 гадоў таму** падчас Еўрамайдану ў Кіеве быў забіты беларускі хлопец з Гомеля **Міхаіл Жызнеўскі**. Куля трапіла яму ў сэрца. Пасмяротна ён стаў кавалерам ордэна Нябесная сотні, Героем Украіны — «за асабістую мужнасць і гераічнае адстойванне прынцыпаў дэмакратыі, правоў і свабодаў чалавека, самаадданае служэнне ўкраінскаму народу, выяўленыя падчас Рэвалюцыі Годнасці».

## 23 студзеня

60 гадоў таму ў Оршы нарадзіўся плывец (вольны стыль) **Сяргей Каплякоў**, які на Алімпіядзе–1980 у Маскве атрымаў два залатыя медалі і адно «срэбра». Другое месца ў яго было і на Алімпіядзе–1976 у Манрэалі — у 17 гадоў. Дарэчы, майстрам спорту СССР Каплякоў стаў у 8-м класе!

Медалёў у Сяргея Каплякова магло б быць і болей, але ў 23 гады ён пакінуў вялікі спорт пасля выводу з савецкай зборнай — маўляў, ужо не такі малады і перспектыўны. Зрэшты, на Алімпіядзе–1984 ён бы нічога і не заваяваў: савецкія спартоўцы ў Лос-Анджэлес не паехалі.

## 24 студзеня

80 гадоў таму ў Мінску адкрылася Дзяржаўная карцінная галерэя — цяпер **Нацыянальны мастацкі музей**. Яго сучасны будынак адмыслова ўзведзены ў 1957 годзе.

## 25 студзеня

150 гадоў таму ў фальварку Кавалі Мядзельскага раёна нарадзіўся паэт, фалькларыст і рэвалюцыянер **Адам Гурыновіч**. Сям'я была шляхетная, мела некалькі фальваркаў. Але рана памёр бацька, пакінуўшы ўдаву ажно з шасцю дзецьмі.

Адам скончыў рэальную вучэльню ў Вільні, дзе сям'я купіла дом. Пасля вучыўся ў Пецярбургскім тэхналагічным універсітэце. Цікавіўся паравозамі, фальклорам і рэвалюцыйнымі арганізацыямі. У 1893 годзе паліцыя арыштавала яго ў віленскім доме, дзе знайшла шмат забароненай літаратуры, у тым ліку нататкі пра паўстанне Каліноўскага. Хлопца пасадзілі ў турму, але неўзабаве выпусцілі праз хваробу да бацькоўскага фальварка. Там Гурыновіч памёр ад чорнай воспы. Можа, памятаеце са школьнай праграмы яго верш:

*Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею,*

*За тое, што ў сэрцы збудзіў ты надзею...*

95 гадоў таму ў Адэсе з'явіўся на свет слынны беларускі мовазнавец **Віктар Мартынаў**. Даследнік у галіне славістыкі і лінгвістычных аспектаў праблемы штучнага інтэлекту. Стваральнік Універсальнага семантычнага коду. У 1989 годзе занесены ў «Кнігу пашаны» ЗША. А Міжнародны біяграфічны цэнтр у Кембрыджы ацаніў яго навуковыя працы як «дасягненне ХХ стагоддзя».

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**







Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №96

Падпісана да друку 18.01.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.